PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 30 (2045) ГОД XL БЕЛАСТОК 23 ЛІПЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

*Аляксандр Вярбіцкі*

## ЦЫЦАТАЕ КУПАЛЛЕ

У суботу, 8-га ліпеня падвечар рух на шашы Гайнаўка—Белавежа адбываўся практычна ў адным напрамку. У 8 гадзін вечара можна яшчэ было паставіць аўтамабіль блізу былога чыгуначнага вакзала Белавежа-Палац. На пероне, які вечарам стаў сцэнай, гукаўзмацняльнай апрартурай апекаваўся Генадзь Шэмет. З рэпрадуктараў плылі бсларускія песні. Навокал прывакзальнага пляцыка ларкі, як на прыхадскім свяце. Ёсць тут ларок з фанаграфічнай прадукцыяй Гайнаўскага дома культуры — кампакты і касеты з царкоўнай і народнай музыкай. Ёсць і кіёскі з напіткамі, абуткам, саламянымі капелюшамі, сервізам. Ёсць і гастраном пад шатром са столікамі — на адным ад пачатку да канца трымаў перапоеную галаву настойлівы кансумент. На іншых сталах асвяжальныя напіткі, піва і „Русская" ў расейскіх ясных паўлітроўках. Народ перад перонам пастаянна прыбывае. На газоне кладуць посцілкі і рассядаюцца першыя сем'і. Неўзабаве робіцца густа і тыя, што сядзелі мусяць уставаць, каб нешта ўбачыць. Зрабілася людна што і цяжка стала прайсці. У 15 дзесятага на сцэну ўвайшоў карагод з песнямі „Купалінка" і „Беластоцкі край", а затым імпрэзу адкрыў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі. Прывітаў гасцей, а ў іх ліку войта гміны Белавежа Анну Байко, сакратара Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Каральчука і загадчыка Бюро п/с нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва Рэчы Паспалітай Ежы Бісяка. Пасля выступалі войт Анна Байко, пан Ежы Бісяк і прадстаўнік Пружанскага раёна сп. Тарасевіч. Затым наступіў абмен ветлівасці між старшынёю Сычэўскім і прафесарам Аляксандрам Баршчэўскім — рэдкая галантнасць у нашых вярхах — і выступленне паэта. Паколькі ранейшыя прамоўцы выступалі вельмі афіцыёзна, дарую сабе апісанне іх выступленняў. Разагрэць публіку задумаў сп. Баршчэўскі. Сказаў ён, што хацеў бы, каб купальскую ўрачыстасць адкрывалі найбольш цыцатыя жыхаркі Белавежы. А паколькі адбывалася тут нейкая арганізаваная ім навуковая канферэнцыя, заклікаў гэтых жанчын, каб цалавалі вучоных удзельнікаў гэтай канферэнцыі. Зазначыў толькі, каб не цалаваць яго, бо з ім Нінка. Пра цыцатасць гэтай Нінкі не гаварыў. Мусіць не навуковыя праўды, а цялесны кантакт вучоных з белавежскімі прыгажунямі меў быць мэтай гэтай канферэнцыі. Затым прафесар праінфармаваў, што напісаў каля сотні вершаў пра Белавежу, а яго ў гэтую ж Белавежу пасля такіх змаганняў з прыгожым словам ніхто яшчэ не запрашаў. Прытым вучоны засцярогся, што ён не напрошваецца. Пасля выканаў яшчэ адно *rondo* па гэтай сотні вершаў, адсутнасці запрашэння і сваёй абыякавасці да напросін і закончыў. Старасць не радасць. А я, хаця ўжо таксама немалады, усё-ткі сардэчна ўсцешыўся, што нічога пра тую вучоную канферэнцыю і не ведаў. Потым старшыня Сычэўскі аддаў слова сакратару ГП БГКТ Валянціне Ласкевіч, якая павяла далейшую, мастацкую ўжо, частку ўрачыстасці.



*У Купальскую ноч прамовіў Аляксандр Баршчэўскі.*



*Госці з Магілёва збянтэжыліся прэферэнцыяй анатоміі над прывабнасцю.*

Напачатак выступіў хор з Гарадка, а дакладней Юры Налівайка, які, так як і заўсёды апошнім часам, спяваў не толькі з Гарадком, але пазней і з Беластокам. Потым выступалі вядомыя ў нас калектывы, м.інш. з Арэшкава, Тынявіч, Нарвы, Орлі, Дубяжына і іншых вёсак, а таксама з трох нашых гарадоў — Бельска, Гайнаўкі і з Беластока. Былі таксама госці з Беларусі: калектывы з Магілёва, Пружанаў і Бакуноў. Мелі яшчэ яны чырвоную вышыўку на белых касцюмах, але трэба спадзявацца, што неўзабаве будзе яна чырвоная на зялёным, як на чырвонаармейскіх мундзірах, або наадварот. Над публікай яшчэ пакуль што красаваўся бел-чырвона-белы сцяг. Нашы выканаўцы таксама мелі бел-чырвона-белую вышыўку. З іх ліку хачу адзначыць выступленне сямейнага тэрцэту, у якім выступаў наймалодшы ўдзельнік Купалля 10-гадовы Давід Дубэц разам са сваёй мамай Алай і бабуляй Любай Гаўрылюк. Спадарыня Ала Дубэц прывезла не толькі Давіда, але і маладзёжную групу хору Беластоцкага аддзела БГКТ, у якой спяваюць дзяўчаты 15—16-гадовага ўзросту. Вялікае дзякуй спадарыні Але за дбайнасць пра маладое пакаленне выканаўцаў. Дарэчы, маладое пакаленне прысутнічала і сярод публікі, якая шчыльна выпаўніла пляц перад былым палацовым вакзалам, а маладыя хлопцы залезлі нават на вакзальны будынак. Прыйшлі, а галоўным чынам прыехалі цэлыя сем'і. Пераважала пакаленне 30—40-годкаў, якія на сваіх машынах прывезлі так бацькоў, як і дзяцей. Было і то цалкам нямала гледачоў у вазках-калысках. Трымалася дзетвара надзвычай бадзёра, хаця на трэцяй гадзіне канцэрта некаторыя жэўжыкі паснулі на сямейных посцілках. На канцэрт прыехалі пераважна „тутэйшыя": самаходы, якія занялі абодва бакі вуліцы на адрэзку нейкага паўкіламетра і частку стаянак, мелі тутэйшую рэгістрацыю. У цэласці імпрэза мела характар сямейнага пікніка. Народу было многа: спаткаў я на ім крыху знаёмых, пра якіх існаванне зусім ужо забыў. Людзі слухалі музыку, сілкаваліся, папівалі,

*Працяг на стар. 8*

*Ганна Кандрацюк*

## Гулянне ў Студзіводах

*— Не раз бывала я на такіх імпрэзах, але так як сёння, нідзе яшчэ не было, — сказала Надзея Артымовіч, ганаровы госць Купалля.*

* * *

Яшчэ тры тыдні перад Купаллем у Бельску павеяла дзейнасцю. Развучваліся песні, вышываліся ільняныя кашулі, развешваліся плакаты (якія нехта заклейваў плакатамі цырка „Палёнія"), запрашаліся госці, знаёмыя, шукаліся спонсары.

— *Жадных прозвішч, толькі Звяз,* — адзначыў галоўны завадатар і адначасова галоўны запявала маладзёжнай групы. Яшчэ больш здзівіла мяне сакрэтнасць ЗБМу, калі тыдзень да свята шэф гэтай арганізацыі сказаў, што пра Купалле яшчэ не чуў. Затое 6 ліпеня пра мерапрыемства ведалі многія бяльшчане. Нават таксіст прывітаў мяне па-беларуску. „Везці вас у штаб?"— упэўніўся ён на ўсякі выпадак і ўключыў касету „Рэалю". „Штаб" размясціўся ў хатцы дзядзькі Якуба — прыватным музеі Дарафея Фёніка, што ў Студзіводах. Дзяўчаты якраз бегалі з гаршкамі, варылі булён „Чарамшыне". Шторaз з'яўляліся спадарства Лазавікі, якія звозілі сюды яду і неабходныя рэчы. Хлопцы рыхтавалі вогнішча, закопвалі на тоўстым дубовым шасце драўлянае кола, аздобленае папараццю, васількамі, белымі і чырвонымі стужкамі. Яшчэ іншыя хадзілі па лугах і збіралі кветкі на купальскія вянкі. Месца, у якім рыхтавалі вогнішча, было прыгожае, дзікае. Рака Белка вілася сярод дзікіх кустоў, квяцістых лугоў, пшанічных ніў.

— Нялёгка было дамовіцца з гаспадаром гэтага лугу, згадзілі адно за пяцьсот тысяч, — прызналіся арганізатары.

Купалле пачалося ў дзевяць гадзін вечара. Пачалі яго ўрачыстым карагодам па Студзіводах. Зацікаўленыя вяскоўцы выходзілі на вуліцу, іншыя па-святочнаму апранутыя, сядзелі ўжо на лаўках і, адчакаўшы некалькі хвілін, усе ішлі на вогнішча. А над ракой чакалі сотні прыезджых і мясцовых паклоннікаў гэтага свята.

Традыцыйна на Беласточчыне купальскія вогнішчы падпальваюць ганаровыя госці. У Студзіводах сёлета зрабіла гэта Надзея Артымовіч.

Купалле праходзіла паводле вядомых ужо ўзораў: вогнішча, спевы, танцы, вянкі на рацэ, піва, печаныя каўбаскі. Аднак асаблівасцей было таксама многа. Песні, якія спявалі арганізатары, даводзілі да слёз.

— Ой, каб ты так усё жыццё спяваў, — захапіліся звонкім голасам галоўнага запявалы цёткі.

У Студзіводах пра Купалле дагэтуль не чулі.

— У нас толькі зёлкі ў гэты дзень збіралі, — успаміналі старэйшыя жанчыны.

Вельмі ўдалым трэба лічыць выступленне маладзёжнага вакальна-інструментальнага гурту з Чаромхі. Згадзіліся выступіць за „дзякуй" і вячэру.

— Хочам стаць такім гуртам, які спяваў бы толькі свае рэгіянальныя песні, — адзначыла энергічная кіраўнічка групы Бася Козуб.

Разам з імі ўсю ноч спявалі госці і арганізатары. Былі нават танцы, да якіх падключыліся паважаныя госці.

Ажылі і мясцовыя, старыя кавалеры. Адзін з іх усё намагаўся праспяваць „Шумеў камыш", чым выклікаў громкі смех моладзі.

— Сённяшняя моладзь да беларускасці даходзіла праз эстэтызм. Ім падабаюцца народныя песні, ільняная вопратка, мова, — тлумачыў адзін з арганізатараў.

*Працяг на стар. 8*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*„Граб награбленное" — з гэтым прымітыўным лозунгам маленькая кучка бальшавікоў разлажыла велізарную царскую армію, разграміла паліцыю, з дапамогай люмпенаў захапіла ўладу і распачала нечуваны тэрор супраць „белай косці". Разлілося мора „блакітнай крыві" — у ролі ката выступіў народ!.. Сёння Лукашэнка заяўляе: „Мяне выбраў народ".*

*З дапамогай якой сілы ўдаецца замбіраванне людзей? Ёсць ідэі захапляльныя на першы погляд, нават святыя. Потым высвятляецца, што гэта ідэі-забойцы. Такой ідэяй быў ленінскі камунізм. Мне здаецца, што такой ідэяй быў рэферэндум аб мовах і новых дзяржаўных сімвалах. Каманда Лукашэнкі жорстка падпарадкавала сабе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі і ўдала стварыла Прэзідэнту імідж змагара за народнае шчасце, змагара, якому розныя злосныя і цёмныя сілы, накшталт БНФ, перашкаджаюць рабіць добрую справу.*

*Замбіраваны народ прагаласаваў за дзяржаўнасць рускай мовы, новыя сцяг і герб. Народ, які існуе ў беззаконнасці сотні гадоў, народ які згубіў у рэпрэсіях лепшых сваіх сыноў і дочак, і народ, які страціў гістарычную памяць; народ, які ў большасці сваёй сёння існуе ў жабрацтве і безвыходнасці, у апатыі і цемрашальстве, у п'янстве і зладзействе, у роспачы і страху, народ які гістарычна прызвычаіўся да бізуна і рабства. Народ, культура, мова і свядомасць якога прыгняталіся ад стагоддзяў з аднаго боку Расіяй, з другога — Польшчай. Народ, які збяднеў да ступені бомжаў. На жаль, сёння дэпутатаў выбіраюць бомжы. І на рэферэндум прыйшлі людзі „без определенного места жительства": ці то ў Беларусі яны жывуць, ці то ў Расіі? Ці то ў БССР, ці ў Савецкім Саюзе? Ці такі народ можа прыняць разумнае рашэнне для будучых пакаленняў беларусаў. Зараз паўсюдна гаворыцца пра перамогу Прэзідэнта. Але гэта перамога над гэтым няшчасным народам.*

*Беларускую мову паўсюдна знішчылі апошнія 200 гадоў, таму яна аслабленая, хворая, ёй карыстаецца меншасць насельніцтва і пры дзяржаўным існаванні на роўных з рускай беларуская мова загіне. Беларуская мова патрэбная не столькі для таго, каб пісаць дзяржаўныя акты, выкладаць матэматыку і спяваць песні. Яна патрэбная ў першую чаргу для захавання нацыі. Нацыя, якая гэтага не разумее, — нацыя самазабойцаў,* — піша кінарэжысёр, народны артыст РБ Віктар Дашук.

*Народная газета, н-р 108*

* * *

*Przemyscy patrioci z impetem bronią miasta przed ukraińskim festiwalem kulturalnym. W centrum Przemyśla na słupach ogłoszeniowych, przystankach, murach kamienic plakaty: „Nie chcemy festiwalu", „Precz z hajdamackim festiwalem". Gromadka starszych osób na rynku czyta napisy i komentuje: „Patrz pan jak ich tu Przemyśl karci" — „Niech Warszawa do siebie weźmie" — „Ich tu ze siedem tysięcy ma przyjechać" — „Przyjadą i nas wyrżną".*

*Gazeta Wyborcza, nr 149*

У Пярэмышлі паважаюць украінцаў так, як у Беластоку беларусаў.

* * *

*Wojna między prawosławnymi a katolikami o klasztor w Supraślu rozgorzała się na nowo. Kościół kat. nagle wpadł na pomysł, że ten klasztor to mienie pounickie, zaś komusza ustawa z 1989 roku oddaje takie coś czarnym i nie ma zmiłuj się. Kiedy temat leżał w NSA, czarni i ich przydupasy rozpętali piekło propagandowe, żeby jakoś uzasadnić te swoje pretensje do Supraśla.*

*Nie, nr 25*

Найважнейшае — гэта экуменізм.

* * *

*Polska przestała być państwem świeckim — staje się półwyznaniowym. Armia ma już całkowicie wyznaniowy charakter.*

*Gazeta Wyborcza, nr 145*

* * *

*Да вялікай польскай і расейскай ганьбы ў Беларусі лічу, што ў гэтым стагоддзі селянін меў чатыры гады ў меру зноснага жыцця толькі падчас нямецкай акупацыі 1941—1944. Нарэшце трохі свае сланіны з'еў, бо не мусіў усё прадаваць, падаткі былі ў тры разы меншыя, чым за палякамі, не гаворачы ўжо пра калхоз, дзе ўвогуле не было заробку,* — сказаў польскі літаратар Земовіт Фэдэцкі.

*Наша Ніва, н-р 4*

* * *

*Co roku produkuje się 173 mld prezerwatyw. Wykonano ich w trzech wersjach: afrykańskie — bardzo duże, europejskie średnie i azjatyckie — małe. W Norwegii i Anglii podniosły się głosy, że europejska jest za mała. Rozpoczęto produkcję prezerwatyw z tworzyw sztucznych, które są cieńsze i zupełnie nie niszczą rozkoszy. Sprzedaje się tysiące gumowych odmian: z rączkami, oczkami, rogate, z rybią łuską, z tarką, prążkami, świecące w ciemnościach, grające popularne melodie, nawilżane, perfumowane, pudrowane, z poślizgiem mocnym i średnim, w różnych smakach, kolorach i zapachach.*

*W Polsce prezerwatyw używa się najmniej w Europie. Trwa natomiast walka z prezerwatywą i często przybiera formy karykaturalne. W 1991 r. w związku z wizytą papieża kioski, zwłaszcza w małych miasteczkach, były odwiedzane przez prezerwatywowych społeczników, którzy nie życzyli sobie aby pudełka z gumką sąsiadowały z fotografiami papieża publikowanymi w gazetach.*

*Polityka, nr 26*

* * *

*Panie towarzyszu Oleksy! To pan towarzysz wygłaszasz przemówienia o sprawiedliwości społecznej, tak?! To pan towarzysz demokratą każesz się nazywać, czyż nie? To pan towarzysz nawet perskie oko na Jasnej Górze do Matki Boskiej puszczałeś, prawda?*

*Gazeta Polska, nr 25*
*(Piotra Wierzbickiego)*

Правыя вядуць палітычныя дыскусіі з левымі. Дыялог працягваецца.

# З мінулага тыдня

**Трыццаць навукоўцаў Ягелонскага і Варшаўскага універсітэтаў, а таксама Філіяла ВУ ў Беластоку** накіравалі адкрыты ліст прэм'ер-міністру **Юзэфу Алексаму**, у якім патрабуюць перадаць **манастырскія будынкі ў Супраслі Праваслаўнай Царкве**. З беластоцкіх навукоўцаў ліст падпісалі праф. **Ежы Капаня** з Лабараторыі тэорыі пазнання і праф. **Ванда Супа** з Лабараторыі ўсходнеславянскай філалогіі. На думку праф. Е. Капані, незалежна ад гістарычных перыпетый, манастыр у Супраслі культурна належыць да спадчыны ўсходняга хрысціянстваа і павінен быць перададзены Праваслаўнай царкве. Выказаўся ён таксама за неадкладным вырашэннем справы, каб такім чынам сцішыць непатрэбны ні палякам, ні нацыянальным меншасцям канфлікт. Працягванне такой сітуацыі пагражае замацаваннем нацыяналістычных пазіцый.

**Прэс-сакратар прэм'ер-міністра Аляксандра Якубоўская** пацвердзіла, што ліст польскіх навукоўцаў у справе **Супрасльскага манастыра** трапіў ужо на стол прэм'ер-міністра **Юзэфа Алексага**. Паінфармавала яна таксама, што прэм'ер-міністр не выкажацца ў гэтай справе пакуль яна „не будзе канчаткова вырашана судовым шляхам".

**Пагадненне паміж Беластоцкім ваяводствам і Гродзенскай вобласцю** ў галіне развіцця трансгранічных гаспадарчых і культурных кантактаў падпісалі ў Беластоку ваявода **Анджэй Гаеўскі** і старшыня аблвыканкама **Аляксандр Дубко**. З'яўляецца яно вынікам рэалізацыі трактата аб добрасуседстве і ўзаемным супрацоўніцтве, заключанага паміж Польшчай і Беларуссю 23 чэрвеня 1992 г. Пагадненне рэгулюе супрацоўніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі, аховы натуральнага асяроддзя і экалогіі, культуры, спорту, турызму, аховы здароўя і асветы. Беластоцкі ваявода заявіў, што неўзабаве будзе створана пасада спецыяльнага ўпаўнаважанага па справах беларускай меншасці ў ваяводстве.

**III Міжнародная канферэнцыя „Дарога да ўзаемнасці"**, прысвечаная польска-беларускім гістарычным, грамадскім, асветным, рэлігійным і культурным сувязям, адбылася ў Белавежы. На працягу двух дзён рэфераты зачыталі звыш дваццаці дакладчыкаў. Арганізатарамі гэтага мерапрыемства выступілі: Польскае беларусазнаўчае таварыства сумесна з Міністэрствам культуры і мастацтва, Кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, ГП БГКТ, Таварыствам Польшча-Беларусь, а таксама разам з Саюзам палякаў у Беларусі, Кафедрай польскай філалогіі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, Польскім навуковым таварыствам у Беларусі і Беларускім фондам культуры ў Гродне.

**Управа рэгіёна прафсаюза „Салідарнасць" у Беластоку** выступіла з пратэстам супраць прапановы **Яраслава Яновіча** вярнуць гістарычна і этнаграфічна правільныя назвы мясцовасцей у Беластоцкім ваяводстве. Старшыня Управы **Юзэф Мазалеўскі** сказаў для мясцовай прэсы, што прапанову вяртання да старых назваў лічыць мэтанакіраванай палітычнай дзейнасцю асяроддзя беларускай меншасці, накіраваную на пасваранне лакальных грамадстваў.

**Прапанова Яраслава Яновіча** наконт вяртання мясцовасцям на Беласточчыне старых назваў не знайшла, на жаль, падтрымкі ні ў лакальнай адміністрацыі, ні ў народзе. Напрыклад, у Гайнаўскай гміне, дзе змяненні датычылі б васьмі з трыццаці пяці вёсак, у рэферэндуме 440 чалавек выказаліся супраць змен (на 551 упаўнаважаных да галасавання). „Здзіўляе мяне, што аб зменах хоча вырашаць нехта, хто жыве ў Лодзі. Цікавіць мяне, хто пакрые высокія кошты рэферэндуму", — падсумавала справу войт Гайнаўскай гміны **Вольга Рыгаровіч**.

# Праз тыдзень у „Ніве"

- Беларускае культурнае лета на Беласточчыне.
- Як жывуць беларусы на Віленшчыне.
- Васіль Петручук пра свае кантакты з мясцовымі дэпутатамі.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Заўчасна спынілася сэрца

На 60-м годзе жыцця раптоўна памёр вядомы беларускі пісьменнік, галоўны рэдактар выдавецтва „Беларуская энцыклапедыя" Барыс Сачанка. За сваё нядоўгае жыццё напісаў ён і выдаў шмат цікавых і разнастайных кніг, а за кнігу прозы „Ваўчыца з Чортавай Ямы" яму была прысуджана дзяржаўная прэмія Беларусі. Шмат гадоў прысвяціў даследаванням беларускай літаратуры на эміграцыі, а іх вынікам стала паэтычная анталогія „Туга па Радзіме". Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам ажыццяўлялася работа па выданні шматлікіх энцыклапедычных даведнікаў, рыхтавалася новая 18-томная беларуская нацыянальная энцыклапедыя, першы том якой павінен выйсці сёлета.

## Цікавая няўвязка

Былы надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Георгій Таразевіч назваў надуманым сцвярджэнне прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што падставай для яго звальнення з дыпламатычнай службы паслужыла нежаданне выступіць на міжнародным сімпозіуме ў Кракаве. На прэс-канферэнцыі прэзідэнт так адказаў на пытанне аб прычыне вызвалення Георгія Таразевіча: „Нельга афіцыйнаму прадстаўніку Беларусі за мяжой адмоўчвацца, калі Пазьняк і Шушкевіч паліваюць граззю прэзідэнта і рэспубліку". Сапраўды, падчас дыскусіі на міжнароднай канферэнцыі ў Кракаве і Зянон Пазьняк, і Станіслаў Шушкевіч рэзка крытыкавалі палітыку прэзідэнта Лукашэнкі. Прысутнічаў на сімпозіуме і Георгій Таразевіч, але, як заўважыў былы пасол, атрымліваецца цікавая няўвязка — канферэнцыя праводзілася ў суботу і нядзелю, а прэзідэнцкі указ аб вызваленні яго з пасады прагучаў у тэлебачанні ўжо ў пятніцу вечарам.

## Барацьба са злачыннасцю

У Менску пабывала дэлегацыя Бюро па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Галоўнай камендатуры паліцыі Рэспублікі Польшча на чале з намеснікам начальніка Бюро Рышардам Мелінам. На прэс-канферэнцыі госці адзначылі, што вялікую заклапочанасць у польскай паліцыі ў апошні час выклікаюць дзеянні злачынных груповак з краін СНД на тэрыторыі Польшчы. Праўда, беларусаў сярод гэтых груповак параўнальна няшмат, але рэкеціры ўсіх нацыянальнасцей прыбываюць у Польшчу часта з Беларусі. „Злачыннасць не ведае граніц, а вось праваахоўныя органы гэтыя граніцы яшчэ ўсё адчуваюць", — падкрэсліў Рышард Мелін. На яго думку, да барацьбы з міжнароднай арганізаванай злачыннасцю трэба наладзіць з суседзямі дакладна арганізаваную сістэму сувязі.

## Чэргі на граніцы

У Брэсце адбылася сумесная нарада прадстаўнікоў пагранічных і мытных службаў Беларусі і Польшчы. Прычыны яго прадвядзення — беспрэцэдэнтнае мноства транспартных сродкаў на беларуска-польскай мяжы. На розных пераходах граніцы даўжыня чэргаў дасягае ад 4 да 5 кіламетраў. На нарадзе вызначаны меры па нармалізацыі абстаноўкі, у тым ліку павелічэння колькасці супрацоўнікаў мытных органаў і саставаў пагранічных нарадаў з абодвух бакоў.

## Супольны кантроль

Рэальнымі справамі мацуецца супрацоўніцтва Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь і Вышэйшай палаты кантролю Рэспублікі Польшча. У рамках дамоўленасці аб узаемадапамозе КП па просьбе польскіх калег у пачатку года далучылася да праверкі дзейнасці Гродзенскага малога прадпрыемства „Кантракт", якое мае партнёраў у Польшчы. Аналагічным чынам вядзецца сустрэчная праверка законнасці знешнеэканамічных аперацый Аб'яднання „МТЗ" з фірмай „Пронар" у Нарве Беластоцкага ваяводства.

Сумесна з асобнымі дэлегатурамі польскай ВПК у ліпені — жніўні будзе прааналізавана эфектыўнасць выкарыстання бюджэтных сродкаў, накіраваных на прыродаахоўныя мерапрыемствы ў Дзяржаўным нацыянальным парку „Белавежская пушча".

## У гонар Дварчаніну

Мемарыяльная дошка з'явілася на будынку былой настаўніцкай семінарыі ў Дзятлаве, дзе ў 1909—1912 гадах вучыўся Ігнат Дварчанін. Так удзячныя землякі ўвекавечылі памяць рэпрэсіраванага ў 1937 г. вучонага, асветніка, вядомага дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Урачыстае адкрыццё дошкі прымеркавана да стагоддзя з дня яго нараджэння. Юбілейнай даце прысвечана таксама праведзеная тут навукова-практычная канферэнцыя.

## Незадаволенасць судовай валакітай

У Гомельскім абласным судзе адбылося пасяджэнне па справе зверскага забойства вучаніцы Сярэдняй школы н-р 62 у маі мінулага года. Згодна са следчымі матэрыяламі забойцам аказаўся настаўнік гэтай школы. Аднак праз гадзіну ад пачатку пасяджэння судовы разбор быў спынены. Суд вырашыў правесці дадатковую медыцынскую экспертызу падазронага, ужо чацвёртую з моманту арышту. На працягу чатырнаццаці месяцаў медыкі не могуць даць адказу ці гэты чалавек здаровы, ці псіхічна хворы. Абураныя сваякі ахвяры і людзі, якія прыйшлі на суд, на дваццаць хвілін перакрылі рух на галоўнай вуліцы Гомеля.

# ПАЧНЕМ З СЯБЕ

Немалы ўжо час, публікуючы на старонках „Нівы" і „Часопіса" свае нарысы пра мясцовасці паўднёвай Беласточчыны, сустракаюся з праблемаю — як запісаць назву данае мясцовасці? Бываюць і недаразуменні, калі хачу запісаць так, як назва мясцовасці вымаўляецца. Заўважаецца імкненне падвесці назву пад літаратурную норму, якой характэрнае дзеканне, цеканне, аканне і т.п. Але, ці ў выпадку поўдня Беласточчыны такая норма павінна нас абавязваць? Ці патрэбны нам ажно тры назвы аднае мясцовасці: арыгінальная гутарковая, афіцыйная польская ды нарматыўная беларуская?

Вядома, што гэты моўны абшар выразна адрозніваецца ад поўначы Беласточчыны, будучы падляшскім прадаўжэннем палескіх гаворак. Гаворкі гэтыя ў гістарычным працэсе не сфарміраваліся ў аддзельную літаратурную мову, але надалей застаюцца нечым выключным, гістарычным феноменам, што існуе паміж абшарамі сучасных беларускіх і ўкраінскіх дыялектаў, з якіх узніклі гэтыя дзве літаратурныя мовы. Не заўважаць гэтай асаблівасці, як і іншых культурных асаблівасцей рэгіёна, было б для нашага беларускага руху вельмі неразумным.

„Ніва" нядаўна падняла праблему змены арыгінальных назваў мясцовасцей. У 27 нумары ад гэтага года, у артыкуле „У мутнай вадзе", журналісты далі сігнал для тае тэмы. Не хочучы ўваходзіць у падняты аўтарамі слушны аспект праблемы, звярну ўвагу на іншы бок справы, залежны хіба толькі ад нас саміх. У святле напісанага мною ва ўступе, у беларускіх выданнях у Польшчы наглядаецца імкненне на сілу „абеларушваць" назвы, ці з-за непрадуманасці, ці з-за рэўнасці да літаратурнай мовы. Гэта тычыцца перад усім назваў паўднёвай Беласточчыны. Так вось, у „Ніве" ці „Часопісе" ды кніжных выданнях можам сустрэць такія дзіўныя назвы як Вярсток (глядзі: „Панарама гмін усходняй Беласточчыны"), Цялушкі, Волька-Церахоўская, калі іх арыгінальныя назвы гучаць: Вэрсток, Тэлушкі, Вуолька-Тэрахоўская (гэта амаль тое ж самае, як напісаць Кронглэ замест Круглэ).

Апошнім часам журналісты „Нівы" пачынаюць усведамляць патрэбу запісу мясцовых назваў у арыгінале (прыкладна пішацца ўжо Дэніскі, а не Дзяніскі). Часам, аднак, прыходзіцца аўтару спрачацца ў гэтым плане. Нядаўна ў адной з рэдакцый прыйшлося мне спрачацца за назву Семятычы, а не Сямяцічы (першую форму назвы горада ўжывала нават „Ніва" калісьці). Тое ж самае тычылася назвы Мілейчычы (правільней: Мылейчычы), якую рэдакцыя ўсё ж рашыла памяняць на Мілейчыцы. Нібыта аднадзве літары, але...

Іншае тычыцца такіх моўным нюансаў, як дыфтонгі: напр. Куойлы (не Койлы), Чыжыэ (не Чыжы); канчаткі слоў: Морэ (не Мора), Быстрэ (не Быстрае), Мокрэ (не Мокрае); мягкае або цвёрдае вымаўленне: Корытыска (не Карыцііска), Парцево (не Парцава). Здараецца, што пераймаем афіцыйныя, спольшчаныя назвы, пішучы, напрыклад Орля (замест Вуорля).

Нехта скажа, што ёсць пэўныя нормы паводле якіх трэба пісаць мясцовыя назвы. А я запытаюся, а дзе ж тыя нормы адносна беларускіх назваў Беласточчыны запісаныя? А зрэшты, калі так думаць, дык атрымаецца, што амаль усе назвы паўднёвай Беласточчыны не супадаюць з літаратурнай беларускай нормай (ад такога надумання адвярнула ў галовах бельскім навааўленым маларусам). Яшчэ нехта скажа, што такімі пусцякамі, як напісаць: Парцево ці Парцава, Морэ ці Мора не варта дурыць сабе галаву. А зрэшты, адкуль ведаць чалавеку з-пад Саколкі, як называюць вёску пад Чаромхай?

Вядома ж, не ўсе мусяць зараз быць лінгвістамі. Але журналістаў перш за ўсё нешта абавязвае. Лічу, што ў рэдакцыях нашых беларускіх выданняў павінна ляжаць, як настольная кніга работа-слоўнік прафесара Міхала Кандрацюка „Мясцовыя назвы паўднёва-ўсходняй Беласточчыны". Там усё можна праверыць і запісаць так, як вымаўляецца ў арыгінале. Гэта ж не дробязь. Гэта сведчыць пра нашае культурнае багацце.

Каб пачаць дабівацца нечага на вышэйшым узроўні, трэба пачаць з саміх сябе.

**Мікола Сахарэвіч,**
**Бельск**

# Беларускія акцэнты ў Варшаве

Па ініцыятыве Варшаўскага аддзела БГКТ у чэрвені г.г. адбылося ў Варшаве некалькі цікавых мерапрыемстваў у галіне беларускай культуры. Назваць гэта днямі беларускай культуры ў Варшаве было б крыху няскромна з тае прычыны, што ўсё было даволі сціплае, замала распрапагандаванае. Не хапіла нам часу і сродкаў пашырыць праграму ўключэннем вядомых фальклорных калектываў з Беласточчыны, а нават з Беларусі. Аднак тыя мерапрыемствы, якія ўдалося нам наладзіць, задаволілі нашую меншасць і зацікавілі многіх жыхароў Варшавы — палякаў, украінцаў і іншых. У другой палове чэрвеня г.г. прабывала ў Варшаве афіцыйная дэлегацыя з Беларусі ў складзе: віцэ-мэр горада Менска Генадзь Сянкевіч, віцэ-міністр замежных спраў Валерый Цапкала і старшыня камерцыйнага Пріорбанка Сяргей Касцючэнка. У Варшаве адкрыўся аддзел гэтага банка.

19 чэрвеня адбылася сустрэча беларускай дэлегацыі з віцэ-прэзідэнтам г. Варшавы Лешкам Мізялінскім, бурмістрам гміны Варшава-Цэнтр Альжбетай Жбіковай і іншымі адказнымі працаўнікамі сталічнай управы. Прысутнічалі ў ёй старшыня Варшаўскага аддзела БГКТ і іншыя члены праўлення. Тэмай сустрэчы было супрацоўніцтва гарадоў Менска і Варшавы ў галіне культуры і эканомікі.

Сустрэчу гэтую папярэдзіла адкрыццё выстаўкі карцін Тамары Тарасевіч, якую наладзілі мы ў холе прэзідэнцкай сядзібы пры дапамозе Аддзела культуры Варшаўскай ваяводскай управы. Вечарам гэтага дня ў Тэатры на Волі выступіў рэспубліканскі тэатр-лабараторыя „Вольная сцэна" з пастаноўкай паэтычнай драмы Раісы Баравіковай „Барбара Радзівіл" у пастаноўцы Валерыя Мазынскага. Некаторыя варшаўскія газеты адзначылі гэта прыхільнымі каментарыямі. У вестыбюлі тэатра прадаваліся беларускія выданні (з Менска і крыху нашых). Мастакі з Беларусі выставілі цікавую кераміку. На спектакль прыйшло шмат людзей. Былі гледачы і з-па-за Варшавы. Пасля спектакля адбылося сімпатычнае спатканне з беларускімі акцёрамі, польскім кіраўніцтвам тэатра і беларускім актывам.

На другі дзень — 20 чэрвеня — адбылася сустрэча з Алесем Барскім. На гэты раз у Доме літаратара на Кракаўскім Прадмесці. Вечар з А. Барскім быў цікавы. Прысутныя купілялі яго кніжку „З пабачанага і перажытага". Літаратурныя вечары ў нашым асяроддзі цешацца папулярнасцю і прыхільнасцю старэйшага і сярэдняга пакаленняў.

Ва ўсіх нашых мерапрыемствах прымалі ўдзел працаўнікі Пасольства Рэспублікі Беларусь. Прыемна нам адчуваць іхнюю прыхільнасць і зразуменне для нашых спраў.

**Галена Анішэўская**

# БІЗНЕС ПА-ПОЛЬСКУ

Аднойчы давялося мне дабірацца ў Беласток цягнікам, які з Варшавы едзе ў Гародню.

Падумаў я сабе, што зноў трэба будзе ехаць у адным купэ з (усё яшчэ) „савецкімі" гандлярамі, ды адправіўся на вакзал Варшава-Цэнтральная. Людзей было няшмат. А калі пасля некалькіх хвілін адыходзіў я з білетам ад касы, з мегафона раздаўся ветлівы голас: „Pan, który w kasie nr 2 zostawił bilet, proszony jest o jego odbiór". Паколькі мне не трэба было спяшацца, вырашыў пачакаць на гэтага разгубленага турыста (праяўляючы тут выключны журналісцкі інстынкт). Аказалася, што гэтым „няўдачнікам" з'яўляецца не надта яшчэ цвярозы пасля ўчарашняй (або пазаўчарашняй — ён сам добра не ведаў) ночы, вядомы мне, хаця не найбуйнейшы, польскі бізнесмен, які вядзе інтарэсы ў Менску. Таксама і да ад'езду ягонага цягніка заставалася яшчэ некалькі хвілін і мы вырашылі супольна выпіць каву.

— Ну, што ж, гавару я, — як цяпер ідуць інтарэсы вашае фірмы ў Беларусі? Спадар прэзідэнт хіба не надта ласкавым вокам глядзіць на прыватных прадпрымальнікаў, а асабліва тых з Польшчы.

— Каханы, — пачуў я ў адказ ад майго суразмоўцы, — толькі што цяпер мы пачнем дыхаць. Уяві сабе гэтую прастору, якая адчыняецца перад намі пасля скасавання беларуска-расейскай мяжы. Што было б, калі б нам давялося перавозіць тавары праз дзве таможні і на кожнай з іх плаціць мыта? Наш прыбытак быў бы мізэрны. А так — аплаціш толькі мытнікам на мяжы Польшчы з Беларуссю і... уся Расея твая! Умом сё не понять! Толькі час ад часу пачуеш не надта ветлівыя словы расейскіх мытнікаў да едучых у адным купэ грамадзян Беларусі: „Эх, вы, братья белорусы!" Вельмі гэта непрыемна нават і для мяне, бо я — хаця і паляк — зычыў беларускай дзяржаве як найлепш. Не скажу аднак, што яна спрыяльна ставілася да маіх інтарэсаў. А сёння — уся Расея перада мною...!

На жаль, не менш ветлівы голас, чым той, што прасіў майго субяседніка wziąć bilet z kasy numer 2, пачаў заяўляць, што цягнік у Маскву праз Менск „отправляется з какого то перрона, какого то пути" (вось так і не дачакалі мы беларускай мовы на польскіх вакзалах) і мы не дакончылі размовы. „Заглянь да мяне, — сказаў мой знаёмы, — пагутарым сабе пры чарцы". Так мы і развіталіся — ён паехаў у Менск (адкуль відаць ужо амаль Маскву), а я — у Беласток (куды і з Гародні яшчэ далёка).

На маё здзіўленне, людзей, якія ехалі гэтым цягніком, было няшмат. Ну, што ж, сярэдзіна тыдня, студэнты ўжо павыязджалі, а варшавякі хутчэй за ўсё на Беласточчыну адпачываць не ездзяць. Калі згадаў я сабе мінулагоднае падарожжа цягніком з Варшавы ў Шастакай, то аж не хацелася верыць. Тысячы торбаў, сумак, сумачак ды адзін вялікі сум па тым, што няма ўжо свабоднага месца. А сёння гандляроў я і не заўважыў. Падышлі да мяне толькі дзве жанчыны з невялікі сумачкамі і запыталіся на расейскай мове, ці „этот поезд в Гродно? И как долго он едет?" Памятаючы ўчарашняе здарэнне маёй сяброўкі, якая гасцям з-за ўсходняй мяжы на беларускай мове пачала тлумачыць дарогу на Заходні вакзал і на канец пачула ад іх прыгожае „дзякуй", таксама і я пачаў адказваць па-беларуску. Аднак у адказ пачуў, „спасибо" на прыгожай мове Пушкіна. Па велічыні сумак, у якіх не магло б змясціцца нічога апрача касметыкі, зрабіў я вывад, што яны не гандляры. А калі нешта прадаюць, тады хутчэй за ўсё робяць гэта ноччу. Сапраўдных савецкіх гандляроў не было.

Праўда, даселася іх некалькі на Усходнім вакзале, але гэта далёка не тое, што год таму ў цягніку Варшава—Шастакай. „Што ж, — падумаў я, — у Беларусі ў крамах усё пэўна ёсць, а насельніцтва і так не мае за што гэта купляць, калі ў некаторых прадпрыемствах зарплату яшчэ за красавік не выплацілі. Тады і на гандаль нічога з Польшчы не вязуць".

Як выявілася пазней, мае меркаванні былі зусім памылковымі. Найперш здзівілі мяне нейкія адкручаныя ды звісаючыя са столі пліты. Пазней такія ж пліты я ўбачыў у туалеце, які, невядома чаму, доўгі час быў заняты. „Вось які стан гэтага цягніка — прыйшло мне ў галаву. — Неўзабаве ён і разляціцца".

Недзе ў палове дарогі паміж Варшавай і Беластокам, калі папіваў я сабе каву ў вагон-рэстаране, у Малкіні, у вагон увайшло пецярых маладых хлопцаў, а кожны з іх трымаў вялікую і цяжкую сумку (гэтае апошняе відаць было па іхніх тварах). Усе яны здаваліся быць сябрамі чалавека, які вёў буфет у цягніку. Так яно, дарэчы, мусіла быць, бо ўсе сумкі занеслі ў ягоны маленькі пакойчык. А вярталіся з багажом яшчэ два ці тры разы. „Ого, — думаю, — прынеслі харчы для буфета". Здзівіла мяне толькі ёмістасць гэтага маленькага — усё ж такі — пакойчыка. Занеслі ж там больш чым 10 вялікіх сумак. Дзе ж гэта ўсё памясцілася?

Неўзабаве я атрымаў адказ на ўсе свае пытанні. Мая тэорыя пра дастаўку прадуктаў аказалася зусім несапраўднай, а зараз жа я і ўбачыў на столі пліты, такія ж як раней на калідоры ды ў туалеце. Хлопцы вельмі спраўна закінулі ўсе сумкі ў гэткую схованку, хаця з некаторымі мелі крыху праблемаў (былі проста вельмі цяжкія) і заселі папіваць піўцо (бо і гэта ўжо дазволенае ў рэстаран-вагонах, што ж — дэмакратыя).

Што было ў гэтых сумках — цяжка сказаць (магчыма папяросы або парашок). Цяжка таксама сказаць, што апынулася ў гэтых схованках у калідоры ды ў туалеце, бо калі я вярнуўся ў сваё купэ, не заўважыў ужо адвінчаных пліт і нічога іншага, што магло б сведчыць пра дрэнны тэхнічны стан цягніка.

Найбольш шкадаваў я таго, што не магу паехаць у Гародню, каб паглядзець мытны кантроль на мяжы. Ці сапраўды пра такія схованкі не ведаюць мытнікі? Ці, хутчэй за ўсё, прымыкаюць на гэта вока, дапамагаючы такім чынам кантрабандыстам, хаця магчыма менш свядома, чым той чалавек, які вядзе буфет.

***

Даехаўшы ўрэшце ў Беласток пайшоў я ў Медыцынскую акадэмію, дзе адбываўся семінар, прысвечаны прысутнасці аднаго з польскіх банкаў на беларускім рынку. У сустрэчы ўдзельнічалі не толькі банкіры, але таксама прадстаўнікі беластоцкіх фірмаў, якія супрацоўнічаюць з беларускімі партнёрамі (ці яны пачыналі таксама, як гэтыя хлопцы з цягніка? — прыйшло мне на думку. — Ды ці таксама пачынаў мой знаёмы з Варшавы?). Гаварылася там пра крэдыты, крэдытныя лініі, страхаванне экспарту ды пра многія іншыя не менш сур'ёзныя справы.

**Яраслаў Іванюк**

# Я ЗГОДНЫ З МАКІЯВЕЛІ І АРЫСТОЦЕЛЕМ

**Размова з Генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Беластоку МІХАІЛАМ СЛЯМНЁВЫМ**



*— Спадар консул, Вы вядомы ў Беларусі перш за ўсё як прадстаўнік навукі, але апошнія пяць гадоў былі дэпутатам Вярхоўнага Савета, палітыкам. Якая затым галіна дзейнасці больш прывабная для Вас — навука ці палітыка?*

— Гэта вельмі цікавае пытанне. Я шмат думаў на гэтую тэму. На вялікі жаль, мне не ўдалося спалучыць навуковай працы з палітычнай дзейнасцю. Дэпутацкія абавязкі, як аказалася, патрабавалі шмат часу, тым больш, што я ўзначаліў вельмі складаную камісію па нацыянальных пытаннях і на навуковую працу ўжо не хапала ні сіл, ні часу. Акрамя таго я пераканаўся, што навуковая і палітычная дзейнасць амаль несумяшчальныя. Сёння я падзяляю выказванне Макіявелі, што: „у палітыцы мэта апраўдвае сродкі". Для таго, каб палітык доўга мог трымацца „на плаву", ён вымушаны час ад часу пераступаць праз маральныя прынцыпы, адракацца ад сваіх сяброў, ісці на кампрамісы з тымі, якіх раней быў ідэалагічным ці палітычным праціўнікам, а то і наогул не паважаў як асоб. Назіраючы практыку палітычнага жыцця я проста ведаю як яно выглядае і думаю, што так ёсць не толькі ў нас. Калі гаворка ідзе пра навуку, то галоўнае ў гэтай галіне дзейнасці — пошук ісціны. Таму маральным імператывам навукі з'яўляецца прынцып сфармуляваны Арыстоцелем: „Платон мне дарагі, але праўда яшчэ даражэйшая". Хаця, шчыра кажучы, і тут усялякае бывае.

*— Часопіс „Беларускі рынак" (н-р 24) напісаў нядаўна, што „неясность идеологии власти настолько велика, что объективный анализ успехов и просчетов правящего режима у нормального человека ничего, кроме раздражнения вызвать не может". А як гэты вобраз беларускай палітыкі выглядае сярод людзей улады; ці вядомыя ім мэты як унутранай, так і замежнай палітыкі?*

— Мне здаецца, што палітыка, якую праводзіць сёння прэзідэнт, дастаткова акрэслена. Іншая справа, што адным яна падабаецца, а другім не. Што датычыцца Вярхоўнага Савета — і тут я буду самакрытычным — яму не ўдалося нават зацвердзіць асноўныя накірункі замежнай палітыкі. Пяць гадоў цягнуліся спробы падрыхтаваць салідную дыскусію на гэту тэму, але яна па сутнасці не адбылася. Шмат „белых плям" заканадаўчая ўлада пакінула і ў сферы ўнутранай палітыкі: сацыяльная абароненасць насельніцтва, прыватызацыя дзяржаўнай маёмасці і іншыя. У такіх умовах выканаўчая ўлада вымушана браць ініцыятыву на сябе.

*— Але ў сваім часе была прапанова апазіцыі, падтрыманая подпісамі некалькіх тысяч грамадзян, каб правесці рэферэндум у справе роспуску савецкага парламента і правядзення новых выбараў на дэмакратычных прынцыпах. Як вядома, выканаўчая ўлада рашуча супрацьставілася гэтым прапановам.*

— Вось тут я хацеў бы выступіць у абарону парламента. Ім зроблена шмат карыснага. І я ўпэўнены, што гісторыкі аднойчы скажуць пра яго добрае слова. У многім дзякуючы, як яго называюць, „кансерватыўнаму", „наменклатурнаму" Вярхоўнаму Савету ўдалося захаваць міжнацыянальную згоду і грамадзянскі мір на Беларусі. А гэта вельмі дорага каштуе. Я, як член міратворчай групы па ўрэгуляванню канфліктаў у „гарачых пунктах" СНД (Нагорны Карабах, Прыднястроўе, Абхазія) ведаю, як проста распаліць пажар на міжнацыянальнай і міжрэлігійнай глебе і як цяжка яго патушыць. А Вярхоўнаму Савету новага склікання хочацца пажадаць не паўтараць нашых памылак і падняць яго работу на больш высокую якасную ступень.

*— Консульства ў Беластоку, як сказаў калісьці для „Нівы" спадар Ігар Хадасевіч, ствараліся перш за ўсё дзеля наладжання цеснага супрацоўніцтва Беларусі з суседняй краінай Польшчай. Генеральны консул Польшчы ў Гародні спадар Мар'юш Машкевіч заявіў нядаўна, што будзе імкнуцца дапамагаць таксама беларускім палякам. Ці падобны характар дзеянняў прадугледжаны таксама ў беларускім консульстве ў Беластоку ў адносінах да мясцовых беларусаў?*

— Безумоўна так, гэтаму пытанню будзе нададзена вялікае значэнне. І я тут выдзеліў бы тры напрамкі дзейнняў у галіне дапамогі беластоцкім беларусам.

Па-першае, падчас падпісвання міждзяржаўнага дагавору паміж Польшчай і Беларуссю старшыня нашай дэлегацыі, тадышні прэзідэнт Станіслаў Шушкевіч у размове з Лехам Валэнсам сказаў: „Давайце будзем спаборнічаць у тым, хто створыць больш спрыяльныя ўмовы сваім меншасцям, вы беларусам, мы палякам". Гэтая палітычная логіка на маю думку павінна быць кардынальным напрамкам вырашэння праблемы нацыянальных меншасцей па двух баках нашай мяжы. Дзяржава павінна перш за ўсё клапаціцца за сваіх грамадзян, якія ствараюць яе духовую і матэрыяльную культуру. У гэтым выпадку дзяліць на сваіх і чужых проста амаральна. Мы ў сябе ў адносінах да меншасцей рэалізуем палітыку згодна з падпісанымі міждзяржаўнымі дагаворамі, хаця не ўсё тут атрымоўваецца, як хацелася б. Як генеральны консул Беларусі ў Беластоку буду праз кантакты з польскімі пасламі, сенатарамі, лакальнымі ўладамі звяртаць увагу, каб у падобны спосаб былі трактаваны беларусы ў Польшчы.

Па-другое, дзяржава можа непасрэдна, калі не парушаюцца законы другога боку, аказваць фінансавую і матэрыяльную дапамогу на падтрымку культуры ці асветы сваіх суродзічаў. Мы, напрыклад, даем касцюмы, музычныя інструменты мастацкім калектывам беластоцкіх беларусаў. Аналагічную дапамогу аказвае урад Польшчы беларускім палякам.

У нас, на жаль, няма так, як у Расіі, Украіне, ці Літве адміністрацыйнай адзінкі, якая займалася б беларускай дыяспарай. Гэтае пытанне часткова вырашае Міністэрства культуры і друку ды Міністэрства асветы.

Па-трэцяе, я вельмі хацеў бы наладзіць цеснае супрацоўніцтва са сваім суседам, генеральным консулам Польшчы ў Гародні. Бо калі толькі адзін бок будзе ісці ў напрамку стварэння адпаведных умоў сваім меншасцям, а другі не будзе рабіць нічога, вядома што раней ці пазней з гэтай прычыны могуць узнікаць розныя непаразуменні паміж дзяржавамі.

*— Калі ў Беларусі праводзіцца ліквідацыя нацыянальных сімвалаў, абмяжоўваецца карыстанне роднай моваі, ліквідуюцца школы на той жа мове, якім чынам беларуская дзяржава, якую Вы прадстаўляеце, будзе зацікаўлена падтрымкай беларусаў і беларускай культуры ў Польшчы, Літве, Латвіі ці на Украіне? Ёсць у гэтым нейкая логіка?*

— Не ўступаючы ў спрэчку адносна карэктнасці ўжывання тэрмінаў „абмяжоўваецца", „ліквідуюцца" ў дадзеным кантэксце, хацеў бы сказаць наступнае. Вынікі рэферэндуму ў справе дзяржаўнай мовы і нацыянальных сімвалаў для мяне не былі нечаканымі. Пэўны ўплыў на іх, безумоўна, меў фільм Азаронка „Нянавісць", але і без яго вынікі праўдападобна не зашмат былі б іншыя. Сведчаць аб гэтым вынікі папярэдніх сацыялагічных даследаванняў. Як бы не было, рэферэндум высветліў стан нацыянальнай свядомасці вялікай часткі грамадства, адносіны да роднай мовы, культуры, свае нацыянальнасці. Быў гэта спецыфічны сацыялагічны апытальнік. Цяпер ведаем колькі ў Беларусі, як кажуць, ёсць „шчырых" беларусаў і не трэба апускаць рук тым, хто займаўся працай над адраджэннем нацыянальнай культуры. А палітык, калі чакае поспеху, мусіць мець аб'ектыўныя даныя, на падставе якіх можна падымаць рашэнні. Цяпер усё стала ясна.

А якая логіка дапамагаць беларусам Беласточчыны? Я бачу вялікую патрэбу дзейнічаць у гэтым напрамку. **Беларускі нацыянальны рух за межамі Беларусі з'яўляецца велізарным маральным стымулам і прыкладам для нашай дзяржавы.** Думаю, што аднойчы сорамна будзе тым прадстаўнікам нашай інтэлігенцыі, якія падчас рэферэндуму заклікалі галасаваць „не" для беларускай культуры, калі яны пабачаць, як прыгожа хаця і не ў самых лепшых умовах развіваецца беларуская культура на Беласточчыне.

*— Ці на Вашу думку беластоцкі беларус псіхалагічна розніцца ад беларуса — грамадзяніна Рэспублікі Беларусь?*

— Беларусы, якія жывуць на Беласточчыне, глядзяць на Беларусь звонку, а не так як мы — знутры. Ёсць такі расейскі афарызм: „вялікае бачыцца на адлегласці". Таму вы больш крытычна ставіцеся да таго ўсяго, што ў нас адбываецца. Мне, аднак, здаецца, што беларусы, якія тут на Беласточчыне забыліся сваёй роднай мовы, не надта ўжо і адчуваюць сваю беларускасць. Інакш ёсць з тымі, якія свядома прытрымоўваюцца свае нацыянальнасці. Іх пачуццё нацыянальнай годнасці — імпануючае. Адчуваецца вялікая розніца паміж беларусамі, якія жывуць у Расіі ці на Украіне і тымі з Беласточчыны. Гэтыя першыя маюць больш падобную псіхалагічную канструкцыю да грамадзян Беларусі. Менталітэт беларусаў Беласточчыны зусім іншы. Ён фарміраваўся не без уплыву польскай культуры, палітыкі, эканоміі. Але ва ўсіх беларусаў, нягледзячы на тое, дзе яны жывуць, ёсць шмат супольных рысаў і добрых, і дрэнных.

*— Дзякую за размову.*

**Гутарыў**
**Яўген Міановіч**
**Фота Ады Чачугі**

---

*Сакрат Яновіч*

# Ці магчыма ліквідаваць Беларусь?

Не, немагчыма. Дзеля такога адказу не трэба асабліва глыбокіх, спецыялізаваных, аналізаў: дастаткова банальных сцверджанняў.

Тое, што ўлада ў Рэспубліцы Беларусь знаходзіцца (і знаходзілася) у руках беларускіх расейцаў, яшчэ нічога кардынальна не вырашае. Сама дзяржава наогул усюды, як такая па сваёй натуры, неабавязкова павінна лічыцца з усімі нацыянальнымі інтарэсамі падуладнага ёй народа. Сведчаннем таму працяглая гісторыя Еўропы ды і нядоўга пажыўшага Савецкага Саюза.

Беларускую дзяржаву быў у стане спляжыць камунізм, калі б пратрымаўся ён і закончыў фармаванне савецкага народа як новай нацыі на расейскамоўным грунце. Так не здарылася, беларусы не дарэшты прапалі. Маштабы саветызацыі Беларусі паказаў нашумеўшы рэферэндум Лукашэнкі, у чым і аб'ектыўная яго вартаснасць.

Савецкія людзі праз некаторы перыяд — праз пакаленне або і два — будуць пераважаць сярод насельніцтва Рэспублікі Беларусь. Але ў іх няма гістарычных перспектыў па той простай прычыне, што распалася сама імперыя, якая фармавала такі тып чалавека і грамадства. Альтэрнатыва ў іх — гэта зрабіцца расейцамі, а Беларусь пераўтварыць у правінцыю Расійскай Федэрацыі. Пахне тут, аднак, утопіяй.

Тыя расейскія па сваёй духоўнай сутнасці кіраўнікі Рэспублікі Беларусь апынуліся ў палітычнай сітуацыі блізкай трагікамедыі. Трымаюць яны ўладу, бы той анекдатычны казак у польскім анекдоце: Złapał Kozak Tatarzyna, a Tatarzyn za łeb trzyma! Пад націскам электарату не могуць адступіцца ад славянскага сацыялізму, паглыбляючы тым самым недапасаванасць да капіталізуючай усё расійскай эканомікі. Існуе, праўда, стаўка на вяртанне камуністаў у Крэмль, але гэткі рэцыдыў не перавысіць узроўню ажываючага ў Еўропе фашызму, нічога не затопіць. Больш сур'ёзным падаецца адагрэты панславізм, яднанне славянаў пад маскоўскім крылом. Ідэя старая і царскага паходжання. У сучасных умовах яна можа быць накіравана толькі на славянскія рэспублікі былога Савецкага Саюза. Без падатлівасці, аднак жа, на яе Украіны лёгка акампраметуецца падпарадкаваннем Маскве ўсяго аднае Рэспублікі Беларусь. Стратэгічным выхадам Расіі ў Еўропу праз калідор, у магістральна важны Брэст, таксама ў Гродна. Якое ж тут гуртаванне славян? Звычайная прабоіна на захад для генеральнага штаба расійскай арміі. На ўсякі выпадак.

Многа высокіх слоў, каб абдурыць у цалкам канкрэтным. Нямілая афіцыйнаму Мінску беларуская дзяржаўнасць нагадвае сабою нейкую хваробу, якую няма каму аддаць. Сам лячыся. Калькуляцыя расійскіх элітаў наступная: Беларусь нас, чаму не, цікавіць, але не як падвешаны нам да шыі камень! І так яно ёсць: Беларусь патрэбная Расіі ў ролі слабога суседа, бо расійскі дом і без яе перапоўнены квартарантамі, нярэдка сварлівымі. Узяць Рэспубліку на свой горб каштавала б Маскве нават больш, чымсьці чачэнская вайна. Трэба дарагіх рэформаў у беларускай гаспадарцы, каб яе тавары перасталі быць нізкай пробы цяперашнім часам, неканкурэнтаздольныя. Танней выходзіць купіць збожжа ў немцаў, чымсьці ў гродзенскіх калгаснікаў. Што рабіць і што чыніць, каб пазбыцца сацыялістычнага навыку выпускаць прадукцыю **drogo i źle**, а дабіцца капіталістычнага прынцыпу **дёшево и сердито?**

Нічога не кемяць наконт падзей у Рэспубліцы Беларусь тыя, хто не дадумаўся, што каманда ў ёй якраз небеларуская. Духоўная філіяльнасць гэтага ўладыцтва давядзе краіну да матэрыяльнай руіны, што аналагічна бачым прыкладна ў паслякаланіяльных дзяржаўных утварэннях, хаця б у былой французскай Афрыцы. Узніклі яны там гэтак жа вымушана бегам сусветнае палітыкі. Залежнасць ад учарашняй імперскай метраполіі нялёгка парваць, гэта так. Але, каб такое намаганне прынамсі нарадзілася, трэба нацыянальных кадраў. Яны абавязкова паявяцца. У моц логікі нацыянальнага руху, які заўсёды грунтуецца на імкненні да лепшага жыцця. Імперыя таму імперыя перш за ўсё, што непазбежна ўтвараюцца неабходныя ёй цэнтры дабрабыту і аддаленыя ды шырокія перыферыі беднасці. Пераважна пакрываецца тое з этнічнымі межамі, асобным лёсам часткі тэрыторыі на нейкім адрэзку папярэдняга мінулага.

Само сабою насоўваецца затым пытанне: на як працяглы час удасца стабілізаваць Беларусь у становішчы ўбогае сваячкі? Адказ машынальны: на так доўга, як доўга паўсюдна жывучымі ў ёй будуць ілюзіі аднаўлення савецкага жыцця. А гэта па-свойму груба маральна звязана з адміраннем папуляцыі савецкіх людзей. Лічы: не раней пакалення сённяшніх унукаў, якія вырастуць жа некалі ў дарослацьць і запоўняць сваёй зусім натуральна несавецкай актыўнасцю Рэспубліку Беларусь. Ці будуць яны яшчэ беларусамі? А кім жа іншым змогуць ва ўмовах лёсу як-ніяк асобнага ад расійскага?! Пачуццё беларускай нацыянальнасці ў іх немінучае. І паслядоўна ўласнае мовы.

P.S. Парадаксальна як быццам пасля таго славутага рэферэндуму ў Беларусі наглядаецца вось рост попыту на беларускамоўныя выданні. Лукашэнка цвердзіць — наколькі сур'ёзна? — што гэта ён выратуе беларускую мову і культуру, зняўшы з яе адыёз прымусовасці. А нават стварыўшы пагрозу, бо вядома: чалавек жа хапаецца не за тое, што яму падсоўваюць пад самюткі нос... Пажывем — пабачым.

# У літоўскім садзіку

У Пуньску пражывае каля тысячы чалавек. Столькі, што ў Орлі. На калькасці жыхароў, аднак, усе падабенствы і канчаюцца. **У Пуньску жывуць літоўцы, а ў Орлі беларусы.** У Пуньску працуе літоўская пачатковая школа, агульнаадукацыйны ліцэй з літоўскай мовай навучання — г.зн. што на ёй і сапраўды вядзецца навучанне, а не з'яўляецца яна толькі адным з прадметаў — і сельскагаспадарчая школа, вучні якой паглыбляюць свае веды таксама па-літоўску. У Орлі частка дзяцей тамтэйшай пачатковай школы вывучае з другога класа беларускую мову. У Пуньску, як і ва ўсёй гміне, больш-менш 80% літоўцаў і 20% палякаў. У Орлі 95% жыхароў — гэта беларусы, а ў гміне пэўна будзе і 99%. На месца Орлі можна паставіць Нарву, Нараўку, Кляшчэлі, Чаромху, Гарадок ці якую іншую гмінную мясцовасць усходняй Беласточчыны.

***

У Беластоку вядуцца намаганні паставіць з галавы на ногі справу навучання беларускіх дзяцей, менавіта адчыніць беларускі дзіцячы садзік (дакладней: беларуска-польскі). На сёння, здаецца, група з пяцідзесяці дзетак атрымае магчымасць кантакту з беларускім словам ад наймаладшых гадоў. У Пуньску ў літоўска-польскае прадшколле сёлета было запісаных 86 дзяцей. Працавалі чатыры аддзелы.

— Нашае прадшколле працуе ўжо ад 1949 года, — расказвае дырэктарка **Анна Вяжбіла** і паказвае здымкі ўсіх будынкаў, у якіх яно па чарзе размяшчалася. — Афіцыйна было гэта польскае прадшколле, хаця заўсёды было больш літоўскіх дзетак. Усё тады залежала ад выхавацельніц. Калі былі літоўкі, гаварылі да сваіх гадунцоў па-літоўску, полькі — па-польску. Літоўскія дзеткі, такім чынам, часта ўпершыню спатыкаліся з польскай мовай.

У 1982 годзе ў прадшколлі ўпершыню адкрылі літоўскія аддзелы. Яны адразу сталі пераважаць. Цяпер гэта самаўрадавае літоўска-польскае прадшколле, са статутам зацверджаным гміннай радай і куратарыяй у Сувалках.

Цяпер таксама прыходзяць у садзік дзеці, якія не ведаюць польскай мовы. Яе тут вывучаюць, але на практыцы ўсе заняткі вядуцца па-літоўску.

— Мы пачынаем афіцыйна па-польску, — расказвае пані дырэктар, — але штодзённае жыццё ідзе ўжо на літоўскай мове. Усе пяць настаўніц, разам са мною, ведаюць літоўскую мову, гэта зразумела само сабой, так мы запісалі ў статуце. Але і астатняя сем асоб персаналу — кухаркі, прыбіральшчыцы, сторажы таксама гавораць па-літоўску.

Пані Анна Вяжбіла дырэктаркай дзіцячага садка працуе ўсяго адзін год. Але ў яе ўжо, нягледзячы на малады ўзрост, вялікі педагагічны вопыт — яна працавала тут настаўніцай 11 гадоў — і дакладна ведае праблемы, перад якімі стаіць школьніцтва нацыянальнай меншасці.

— Мы не маем праграм навучання на літоўскай мове, — расказвае яна, — а тыя, якія функцыяніруюць у Літве, не адпавядаюць польскім варункам. Праграмы пішам мы па-польску, а рэалізуем па-літоўску. На сённяшні дзень марыцца мне пагадненне між Польшчай і Літвою па распрацоўцы якраз такіх праграм. Не друкуюцца цяпер у Польшчы і падручнікі для літоўскіх школ. Напрыклад, карыстаемся падручнікам па літоўскай мове ад 1972 года. Нам кніжачкі з Літвы прывозіць адзін чалавек; таксама старыя часопісы для дзяцей, вельмі цікавыя, мы іх тут жа выкарыстоўваем. Таксама цацкі ў святочным падарунку атрымліваем з Літвы. Моладзь з тамтэйшых школ ахвяроўвае нам свае мастацкія працы, якія ўпрыгожваюць нашыя памяшканні.

Пані дырэктар водзіць нас па залах колішняга школьнага будынка, адаптаванага для патрэб садзіка. На сценах прыгожыя малюнкі, дэкарацыі з лялек у літоўскіх нацыянальных уборах розных рэгіёнаў краіны, падручнікі і дапаможнікі па літоўскай мове, для большых дзетак.

— Такія святы, як напрыклад, Дзень бабулі, — кажа Анна Вяжбіла, — у нас двухмоўныя. Мы спяваем і „Sto lat", і наш літоўскі адпаведнік гэтай песні. На двух мовах віншуем нашых бабуль, двухмоўная мастацкая частка. І ўсе разумеюць. Трэба падкрэсліць, што жывем мы тут у Пуньску згодна, няма якіхсьці канфліктаў з-за нацыянальных спраў.

На афіцыйных установах у Пуньску польскія шыльды. Літоўскія — на школе, прадшколлі, сядзібе выдавецтва і месячніка „Aušra". І на... прыватных крамах. І яксьці не чуваць, што гэта распальвае нацыяналізмы, выклікае варажнечу. Ну, але дзеля гэтага трэба пачувацца гаспадаром на сваёй зямлі, шанаваць самога сябе.

**Каб адчуваць неабходнасць такіх элементарных патрэб, як узгаданне дзіцяці ў роднай мове, трэба быць літоўцам!**

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**



*Дырэктар Анна Вяжбіла (першая справа) паказвае беларускім мамам літоўскі садок. Ці гэтыя дзеткі будуць хадзіць у беларускае прадшколле?*




## Годнасць беларуса

Як мае адчуваць сябе беларус, які нарадзіўся тут, у Беластоцкім краі? На так пастаўленае пытанне дае адказ Мацей К. з Гданьска („Ніва" н-р 25 ад 18 чэрвеня 1995 г.): „ ...варта прыцішыць жартоўныя (далікатна кажучы) заўвагі, зацемкі, нататкі ў „Ніве", якія могуць дакучаць палякам". „Цішэй едзеш, далей будзеш", — кажа прыгаворка і пэўна так робяць беларусы. Паціхлі яны апошнім часам, што беларускага неўзабаве зусім не стане. Мацей К. заклікае, каб мы сябе адчувалі чужынцамі, прыбыўшымі да ласкавай Польшчы. Можа ён так сябе адчувае, але я ніколі сябе так не адчуваў. І цяпер, пражыўшы больш чым паўстагоддзя ў сваёй айчыне, маю мяняць паводзіны? І гэта таму, каб не „дакучаць палякам"? Палякам, якія дабіліся дэмакратыі са свабодай? Хіба Мацей К. думае пра іншую дэмакратыю, пра нейкую нееўрапейскую, дзе ніхто не можа адчуваць сябе як хоча: беларус — беларусам, украінец — украінцам, татар — татарам, праваслаўны — праваслаўным.

Праўдзівая дэмакратыя абапіраецца на законах, а не на тым, хто кім нарадзіўся. Праўда, пруская дзяржава Бісмарка таксама ў аснове мела законы, таму Джымала мог жыць у хаце на калёсах, але цяпер няма, пакуль што, самадзяржаўя тут. Што іншае на ўсходзе, там без самадзяржаўя цяжка пратрымацца некалькі гадоў, бо як не цар, то сакратар, як не сакратар, то прэзідэнт. Але гэта ўжо іншая тэма.

**Міхась Куптэль**

P.S. Мацей К. (з Гданьска) пытае рэдакцыю „Нівы", ці могуць яго зразумець, што ён так думае. Журналісты можа і разумеюць, але чытачы не павінны, усё ж мы нічога дрэннага палякам не зрабілі і не трэба дзяліць людзей па нацыянальнасцях, калі хочам выявіць свае погляды, бо выйдзе так, што голас у Польшчы маюць толькі палякі, у Германіі — немцы і г.д. А за кім будзе голас у шматнацыянальнай Амерыцы?

**М. К.**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

### У савецкай школе

З 1 кастрычніка 1939 г. савецкія ўлады загадалі моладзі падаць у школы. Такім чынам у маім жыцці пачаўся новы раздзел — навука ў роднай беларускай школе. У школу абавязаны былі хадзіць і дарослыя, якіх галоўным чынам вучылі распісацца і чыталі ім ды тлумачылі сталінскую канстытуцыю.

У школе многае перамянілася. Перш за ўсё змяніліся кадры. Засталіся толькі два настаўнікі з польскай школы. Якое ж было маё здзіўленне, што засталіся тыя, хто раней ніводным словам не паказалі, што ведаюць беларускую мову і насміхаліся з вучняў і бацькоў з іх хамскай мовы. Былі гэта Юзэф Куклеўскі (пасля вайны працаваў настаўнікам у ліцэі ў Сямяцічах) і Адам Стадніцкі (быў у АК і загінуў у 1943 г.). Новым загадчыкам школы стаў выпускнік беларускай гімназіі ў Вільні Уладзімір Уласік родам з Задвор'я. Чарговая змена датычыла памяшкання. Школу перанеслі ў памешчыцкія будынкі Геранім Арцюха з Задвор'я.

У першы дзень навукі загадчык школы паведаміў, што наша школа атрымала статус дзесяцігадовай сярэдняй школы. Усе вучні з V—VII класаў і першага класа ліцэя былі пераведзены ў V клас савецкай дзесяцігодкі. Як прычыну гэтага падаў ён нізкі ўзровень навукі ў польскіх школах. Нагадаў яшчэ, што няма прымусу хадзіць у школу, і калі хто не пагаджаецца на навуку ў пятым класе, можа застацца дома. Вучні збянтэжыліся, але прыйшлося пагадзіцца з лёсам.

Першыя дні навукі даваліся цяжка, хаця і на працягу ўсяго года не бракавала складанасцей. Па-першае, не было падручнікаў, а нават і сшыткаў. Падручнікі (па адным экземпляры) былі толькі ў настаўнікаў. Замест сшыткаў вучням давалі чыстыя з аднаго боку польскія квітанцыі і плакаты. Аднойчы прынёс я ў школу беларускія кніжкі з хатняй бібліятэкі. Былі гэта буквар „Першыя зярняткі", падручнік па геаграфіі і „Сымон-музыка" Якуба Коласа. Даў я кніжкі загадчыку з просьбай ацаніць іх прыдатнасць. Пасля некалькіх дзён паклікаў ён мяне ў кабінет і сказаў: „Па гэтых кніжках мы вучыцца не будзем, бо іх выдалі пры польскай уладзе. Гэтыя кніжкі, за выключэннем „Сымона-музыкі", трэба было б знішчыць". Загадчык аднак вярнуў мне кніжкі і загадаў іх знішчыць дома. Хаця я паабяцаў спаліць кніжкі, але гэтага, вядома, не зрабіў. Паэму „Сымон-музыка" чыталі мы фрагментамі на ўроках, але не дакончылі. Сталі чытаць „Дрыгву".

Вясною 1940 г. пачалі арганізаваць піянерскі атрад. У гэтую арганізацыю і я падаў заяву, аднак мая просьба была адкінута. Прыём у піянеры праводзіўся перад Вялікаднем, а мы з бацькам пайшлі паспавядацца якраз у той дзень, калі піянерважатая склікала сход. Больш мне запісвацца ў піянеры ніхто не намаўляў. У сваю чаргу я і некаторыя мае сябры крытыкаваліся ў школьнай насценгазеце за ўдзел у набажэнстве.

У сакавіку 1940 г. вучняў V класа завялі ў Стоўбцы на працэс чатырох польскіх паліцыянтаў з пастарунка ў Новым Свержане. Быў гэта апошні дзень судовага разбору, калі аб'яўлялі прыгавор. У тэатральнай зале, дзе праводзіўся працэс, 70% наглядальнікаў складала школьная моладзь. Былі таксама дэлегаты ад розных прадпрыемстваў горада і чыгуначнікаў. Калі суддзя зачытаў прыгавор (камендант і яго намеснік былі прысуджаны да вышэйшай меры пакарання цераз расстралянне, а два радавыя паліцыянты да 20 гадоў турэмнага зняволення) больш дзесятка чалавек з публікі запляскалі ў ладкі. Кім былі гэтыя людзі, не ведаю. Мабыць, былі гэта вязні польскіх турмаў або завезеныя сюды з усходу камсамольцы. На канец голас узяў прадстаўнік партыйнага камітэта, нейкі Царук, які сказаў: „Воплескі, што раздаліся пасля зачытання прыгавора, сведчаць аб тым, што савецкі суд самы дэмакратычны ў свеце. Ён у сваім прыгаворы выказаў волю працоўнага народа, які поўнасцю асуджае ворагаў народнай улады".

Часта ўспамінаю гэты працэс і не магу знайсці адказу на пытанне, чым кіраваліся асветныя ўлады, пасылаючы 13—15-гадовых хлапчукоў і дзяўчынак на працэс, дзе абвінавачаных прыгаварылі да смяротнага пакарання. Ці гэта мела запалохаць юных людзей перад антысавецкай дзейнасцю, ці проста дэгенерываць моладзь?

У чэрвені 1940 г. удалося мне шчасліва закончыць навучальны год і перайсці ў VI клас. Летнія канікулы прайшлі спакойна, пры рабоце на гаспадарцы.

У пачатку канікул праводзілася вярбоўка мужчынскай моладзі ў прафесіянальныя школы ФЗО (Фабрычно-заводское обучение). Многія сябры падаліся ў гэтыя школы. Восенню 1940 і вясною 1941 г. пачалася амаль прымусовая вярбоўка, а мяне асабіста двойчы выклікалі на вярбовачную камісію, але неяк удалося адмовіцца (з-за працы на гаспадарцы і сухотаў).

Новы школьны год і навука ў VI класе нічым асаблівым не вылучаліся — надалей не было падручнікаў. Было затое ўдоваль сшыткаў, але папера была такая дрэнная, што чарніла размазвалася і прамакала. Вясной 1941 г. на некалькіх уроках займаліся мы патрыятычнай тэмай — аналізавалі гераічны ўчынак Паўліка Марозава — змагара з кулацтвам, які здрадзіў свайго бацьку. Вучні былі абавязаны выказаць свае меркаванні наконт гэтага „гераізму". У той жа час у школе з'явіліся двое невядомых мужчын (мабыць, супрацоўнікі НКУС), якія ў кабінеце дырэктара сталі намаўляць вучаніцу Ядвігу Сайкоўскую, каб яна адмовілася ад свайго бацькі. Янка Сайкоўскі, малазямельны жыхар Кучкуноў, які зарабляў на жыццё шавецтвам, быў арыштаваны органамі дзяржбяспекі як удзельнік слуцкага паўстання. Ядвіга, аднак, не пайшла па слядах Паўліка Марозава і нічога супраць бацькі не сказала і не напісала. Сёння Ядвіга Жывіцкая жыве ў Жэпіне ў Зялёнагурскім ваяводстве; Янка Сайкоўскі памёр у 1962 г.).

У пачатку чэрвеня 1941 г. закончыўся навучальны год, а я паўторна апынуўся ў сёмым класе (першы раз папаў у сёмы ў польскай школе ў 1939 г.). Пачыналіся канікулы, якія неўзабаве перарвала чарговая вайна.

*(працяг будзе)*
**Юстын Пракаповіч**

Зорка
Старонка для дзяцей

# Непаседлівая Оленька



Оленьцы Ніколі няма яшчэ годзіка. Дзяўчынка толькі пачынае хадзіць. Бярэ за руку маму, бабулю або дзядзьку і просіцца вадзіць па ўсёй хаце. Калі мама кладзе яе ў калыску, дзяўчынка востра пратэстуе і пачынае плакаць. Оленька Ніколя Аксютыч нарадзілася ў Лондане. Зараз гасцюе ў бабулі, у Чаромсе. Разам з мамай шпацыруе, у возіку зразумела, па вуліцы мястэчка. Усе захапляюцца арыгінальнай дзяўчынкай. Яе тата родам з Афрыкі. У Чаромсе не было яшчэ такой прыгажуні як Оленька.

**Г. К.**
**Фота Міколы Ваўранюка**

## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка"!**

Мяне завуць Анна Аўсянюк. Я вучаніца IV„е" класа Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Я рашыла расказаць Табе, „Зорка", **пра экскурсію ў Варшаву.**

У гэтым годзе ездзіла я разам са сваёй мамай у сталіцу Польшчы, Варшаву. Горад гэты я ведала толькі са здымкаў і расказаў.

Цягнік спыніўся на Цэнтральным вакзале. Перад нашымі вачыма віднеў велізарны Палац культуры і навукі. Мы паехалі на яго апошні паверх. Я захаплялася панарамай сталіцы Польшчы. Ніколі дагэтуль не бачыла такой прыгажосці.

У Варшаве мы спыніліся каля помнікаў Каперніку і Міцкевічу, каля касцёла Святога Крыжа, дзе спачывае сэрца Шапэна. Вуліцай Кракаўскае Прадмесце мы дайшлі да славутай калоны Зыгмунта. Варшавяне называюць яе другім, пасля Сірэны „няпісаным" гербам сталіцы.

Незабыўнае ўражанне выклікаў шпацыр па вузкіх вулачках Старога Мяста. Поўныя пашаны для горада мы ішлі па гладкім, узорыстым бруку рыначнай плошчы. Камяні дыхалі гісторыяй.

Ніколі не забуду кароткага рэйса па шырокай Вісле. Параходам я плыла першы раз у жыцці.

Дзень у сталіцы мінуў вельмі хутка. Асталіся мілыя ўспаміны.

**Ад рэдакцыі:** Каханая Аня!

Дзякуючы Твайму дакладнаму і прыгожаму апісанню экскурсіі, многія дзеці таксама „наведалі" Варшаву. Твой ліст вельмі мяне ўзрадаваў. Пішы, не забывай „Зорку". Напамінаю, што будзеш удзельнікам нашых штомесячных конкурсаў.

З-ка

З гісторыі Беларусі

## Хто такі Клім Смаляціч?

Клім Смаляціч нарадзіўся на пачатку XII стагоддзя ў Смаленску. У нашую гісторыю ён увайшоў як выдатны пісьменнік, філосаф і царкоўны дзеяч. Ёсць звесткі, што адукацыю Клім атрымаў у Канстанцінопалі. Пэўны час быў манахам Зарубскага манастыра, што пад Кіевам. У 1148 годзе пры падтрымцы князя Ізяслава заняў пасаду мітрапаліта (да 1155 года). Ён падтрымліваў ідэю моцнай Кіеўскай мітраполіі, незалежнай ад канстанцінопальскага патрыярха.

Са спадчыны Кліма да нашага часу дайшоў, на жаль, толькі адзін твор — „Пасланне прасвітару Хаме", які вызначаецца жывым, эмацыянальным выкладаннем думак, насычаны прыпавесцямі, адметнымі каментарыямі Біблії.

Клім быў адным з самых адукаваных людзей свайго часу. Ён выдатна ведаў антычную культуру, творы Гамера, Арыстоцеля, Платона, меў глыбокія веды ў багаслоўскай — грэцкай і рымскай — літаратуры. Летапісец назваў яго кніжнікам і філосафам, якіх не было дагэтуль у нашай зямлі.

Таленавіты пісьменнік і педагог, Клім стаў заснавальнікам цэлай літаратурнай школы. Сярод яго вучняў і паслядоўнікаў — выдатны красамоўца і мастак Аўрам Смаленскі, аўтар шматлікіх духоўных словаў і павучэнняў.

*„100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі"*

## Вершы Віктара Шведа

**НЕ МАЕ СЛЫХУ**

— Не можам сыночка Міколу, —
Сказалі матулі пацыху, —
Прыняць у музычную школу,
Зусім не мае ён слыху.

— Божа мой, вось страшнае гора, —
Горка маці сынка наракала, —
Той жа родны сынок яшчэ ўчора
Чуў усенька зусім дасканала.

**ПУСТАЯ ГАЛАВА**

— Баліць страшэнна мой жывот, —
Плача малая Жэнька.
— Вазьмі, дачуся, нешта ў рот,
Жывоцік твой пусценькі.

Баліць татульку галава.
Азвалася малая:
— Я ведаю, як двойчы два,
Яна ў цябе пустая.

**БЕЗ ДАПАМОГІ НЕ ВЫЙДЗЕ НІЧОГА**

Спытаў сыночак зухавата:
— Ці ты рашыў задачу, тата?
Тата на гэта поўны суму:
— А ты, сынок, аб ёй не думаў?

— Думаў, татулька, я талкова.
— І да якой дайшоў высновы?
— Што без цябе, татулька мілы,
Рашыць яе не маю сілы.

## Ці не быстрая рэчка



Ці не быстрая рэчка
Ваду замуціла?
— Чаго плачаш, дзяўчынанька,
Ці не матуля біла? } 2х

— Ой, біці не біла,
Толькі засмуціла.
Не даў мне Бог, не судзіў мне Бог,
Каго верна любіла. } 2х

Пайду я гарою,
А ты даліною,
Сама знаю, людзі гавораць,
Што не быць мне з табою. } 2х

— Няхай сабе кажуць
Усякае ліха,
А мы з табой, дзяўчыначка,
Любімося ціха. } 2х

## Ужо ў чацвёртым класе



З вучнямі бельскай „тройкі" прыемна сустракацца. Усе дзеці ў гэтай школе ходзяць на ўрокі беларускай мовы і ведаюць „Зорку". Адтуль, урэшце, славутыя карэспандэнты: Паўліна Попік, Анэтка Леанкевіч, Аня Аўсянюк, Міхась Сцепанюк і іншыя.

З гэтымі вучнямі, што на здымку, „Зорка" сустрэлася ў канцы школьнага года. Дамовіліся мы наладзіць сустрэчу ўжо ў верасні. Мае новыя сябры будуць ужо ў IV„б" класе і напэўна ў час канікул падвучацца беларускай мове.

— У вакацыі вучыцца? — абурацца многія.

Так, чытаючы „Зорку" вы не толькі пазнаёміцеся з цікавымі дзяцьмі, але і палюбіце беларускую мову.

**Зорка**
**Фота Г. Кандрацюк**

# Выдатнікі з Чыжоў




*Найлепшыя вучні з пятага класа. Зразумела, па беларускай мове.*

У Чыжах вельмі цікавыя вучні. Чытачы „Зоркі" напэўна даўно заўважылі, што там прыгожа рысуюць (глядзіце малюнак Агнешкі Качаноўскай у гэтым нумары), спяваюць, дэкламуюць.

Сёння пазнаёмімся з выдатнікамі: Петрусём Дэмянюком, Юліяй Гаўрылюк, Даркам Заброцкім, Аняй Селеванюк, Агнешкай Качаноўскай і Петрусём, які прадставіўся як Пятро Пятрусь. Усе пералічаныя асобы перайшлі ў шосты клас. Яны вельмі любяць беларускую мову, якой навучае іх Янка Карчэўскі. Мае сябры з Чыжоў расказвалі пра сябе.

Агнешка Качаноўская жыве ў Чыжах. Дзяўчынка не толькі прыгожа малюе, але і кахае паэзію. З беларускіх паэтаў найбольш любіць Якуба Коласа і яго „Сымона-музыку", Максіма Танка. Агнешка выдатніца па ўсіх прадметах.

— Цікавяць мяне геаграфія, матэматыка, польская мова. У „Зорцы" найбольш падабаюцца казкі, — прызнаецца дзяўчына.

Пятрусь Дэмянюк (аўтар апублікаванага ў „Зорцы" ад 4 чэрвеня г.г. малюнка Уладзіміра Вялікага) родам з Падрэчан. Вёска Петруся распаложана ў чароўным месцы, каля лесу і рэчкі Локніцы. Хлопец любіць таксама казкі, паэзію і песні.

Іншы Пятрусь — жартаўнік.

— Вельмі люблю звяроў. На жаль, майго хамяка з'еў учора кот, — спакойна расказваў хлопец.

Пятрусь родам са Збуча.

Агнешка Селеванюк хоча ў будучыні працаваць настаўніцай матэматыкі. Вельмі любіць вучыцца. Яна родам з Шастакова.

Юліта Гаўрылюк, аўтарка публікаванага ў „Зорцы" ад 4 мая г.г. малюнка Рагнеды, любіць спяваць. Разам з сябрамі ходзіць на рэпетыцыі ў дом культуры. Выступала на фестывалі калядпай песні ў Драгічыне.

Дарак Заброцкі — паклоннік беларускіх казак і геаграфіі. Хлопец родам з Лядаў. У час канікул, як сам ён сказаў, што безупынна будзе купацца ў рэчцы. Дарак вельмі любіць „Кола фартуны", якое на ўроках беларускай мовы прыдумоўвае іхні настаўнік Янка Карчэўскі. Зразумела, што гульня праводзіцца на беларускай мове.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



*Рагнеда намагаецца забіць князя Уладзіміра.* **Мал. Агнешкі Качаноўскай**

## ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

### Як мужык справу выйграў

Даўно гэта было. Жылі-былі тады пан і мужык. У суседзях век хадзілі: мужыкова васьмуха[1] цераз мяжу побач панскіх абшараў, бы нітачка, вілася.

Меў той мужык статачак быдла. Пасвілі яго мужыковы дзеці на той васьмусе. Але ж вазьмі ды і ўпасі жывіну на такой палосцы, дзе як на адной мяжы сядзеш, то другое нагамі дастаеш! Да таго на сялянскім полі лысы бубен, а на панскім — трава, бы лес, шуміць. Ну раз тое мужыкова быдла ўскочыла на панскі папар[2]. Пакуль дзеці дабеглі, дык панскія слугі быдла занялі і ў дворскія хлявы пагналі.

Пайшоў мужык у двор. Стаў ён прасіць пана, каб быдла аддаў. А той і гаварыць не даецца.

— Падавай, — кажа, — на мяне ў суд.

І павалокся мужык дадому, не солана хлябаўшы. Ідзе, бядуе, але ж падумаў: „Не прападаць жа карове і дзвюм цялушкам". Наступнага дня пайшоў у валасць і падаў на пана ў суд.

Пан жа той на ўсю ваколіцу сваёй вучонасцю славіўся. Мужык жа — калі і даводзілася яму распісацца, павестку на падатак беручы ці згоду на павелічэнне шарварку[3] даючы, усюды крыжыкі каравыя ставіў: непісьменным, значыць, быў.

Гэтак аднаго ранку падаліся мужык і пан у валасць на справу. Мужык, як адно заружавеў усход, у мястэчка пешшу падрыпаў, а пан недзе пад поўдзень у брычцы, варанымі запрэжанай, пакаціў.

Вядома, справу выйграў пан.

Выходзяць яны з суда, а пан і кажа мужыку:

— Бачыш, дурню, што значыць навука: не паспеў суддзя і рот разявіць як я яму даказаў, што тваё быдла мне належыцца!..

Усхліпнуў мужык з гора ды патэпаў назад дадому. Па дарозе, хаця яму ўжо і шосты дзесятак гадкоў стукнула, падумалася: „Давай і я пайду ды навучуся... Ці ж мая галава пусцейшая за панскую?.."

На другі дзень падаўся ён у школу, што ля царквы, пасярод вёскі, стаяла. Зайшоў, зняў шапку, пакланіўся настаўніку і кажа:

— Я да вас, паночку, вучыцца прыйшоў...

Глянуў настаўнік на сівыя валасы на мужыковай галаве і гаворыць:

— Запозна ўжо, мілы чалавеча...

Вярнуўся селянін дамоў. Назаўтра падняўся ён разам з другімі пеўнямі і зноў у школу павалокся. Прыходзіць, а школа яшчэ на замку. Прысеў ён на ганку і маркуе: „Ну, сёння то я ўжо не спазнюся..." Але ж прыходзіць настаўнік, мужык да яго:

— Вучыцца хачу...

— Запозна... Казаў жа я вам учора, — кажа той.

— Дык я ж даўно ўжо тут. Яшчэ сяло спала, як сюды прыйшоў...

Настаўнік яму і тлумачыць:

— На навуку вам ужо запозна, кажу. За стары ўжо вы: не пасаджу ж я вас у лаўку з вашымі ўнукамі?! Вы ж сівы, як голуб...

Узяўся чалавек у задуме за сваю белую бараду і павярнуў дахаты. Ідзе ён так вуліцаю, вочы ў зямлю ўпёршы, ды бачыць: нейкі капшук[4] ляжыць пяском прысыпаны. Чалавек за яго, а там поўна грошай!..

Хоць і вельмі строга наказаў мужык усім хатнім трымаць язык за зубамі пра знаходку, ды што ж ты ў вёсцы ад суседзяў утоіш? Праз дзень ці два чутка пра знойдзеныя ім вялікія грошы абышла не адно ўсю вёску, але і ў панскі двор трапіла.

Пан некалькі дзён таму гавяду[5] купцу прадаў ды гандлярам пшаніцу надта ж выгадна збыў, а грошы недзе не па-цвярозаму загярушыў. Як толькі слугі данеслі яму пра мужыкову знаходку, ён адразу паімчаўся на сяло.

— Аддавай, — пачаў ён крычаць на мужыка. — Гэта мае грошы. У сераду вечарам, едучы з мястэчка, згубіў я іх тут.

А мужык яму на тое:

— А ты маю жывёлу аддаў? Падавай мяне ў суд.

Што ж, падаў пан на мужыка ў суд. Настаў дзень іхняй справы.

Суддзя і пытаецца мужыка:

— Калі ты грошы знайшоў?

Той і кажа:

— Як са школы ішоў...

Тут суддзя і кажа пану:

— Гэта ж вельмі даўно было!.. Пане Мандральскі, справа пайшла ў даўнасць. Няма чаго тут па судах цягацца.

Вось так хаця адзін раз справу ў судзе выйграў мужык.

**Пачуў і пераказаў**
**Мікола Гайдук**

---

1/ **васьмуха** — восьмая частка ўчастка, гэта значыць: 3 га, калі ўчастак быў абшарам у 24 га; 2 га, калі ўчастак меў 16 га і г.д.

2/ **папар** — адна трэцяя частка поля, якую пры трохпольным гаспадаранні пакідалі на адзін год „адпачываць", гэта значыць не засявалі, або сеялі на ёй лубін, сырадэлю на зялёнае ўгнаенне. Папар пераважна выкарыстоўвалі як пашу.

3/ **шарварак** — абавязковы грамадскі пачын, пераважна пры пракладванні і рамонце дарог, за гэтую працу сялянам ніхто не плаціў.

4/ **капшук** — мяшочак, пераважна з мяккай скуры, у ім насілі тытунь або грошы, прымацоўвалі яго пераважна да раменнага пояса.

5/ **гавяда** — інакш: быдла — валы, каровы, цяляты.

# ЦЫЦАТАЕ КУПАЛЛЕ

*Працяг са стар. 1*

гутарылі, спявалі. Працавала малая гастраномія. Напрыклад у кіёску, які па-еўрапейску ці па-афрыканску называецца „SUVENIRY", галоўным сувенірам было піва. Хаця піва было ўволю, святкаванне адбывалася спакойна, бо людзі трымаліся сем'ямі а і прысутнасць паліцыі была заўважальная. Надвор'е было як па нейкаму экстра-заказу — неба чыстае, зорнае, слаба толькі бачнае з-за інтэнсіўнага асвятлення сцэны і публікі, вялікі, перад поўняй, месяц і адсутнасць ветру. Цеплыня перад поўначчу паступова пераходзіла ў холад, выкліканы ў вялікай меры прысутнасцю абшырных вадаёмаў. Канцэрт разам з афіцыйнай часткай доўжыўся роўна тры гадзіны і закончыўся пусканнем вянкоў з запаленымі свечкамі па рацэ Нараўцы. Былі таксама феерверкі і іншыя піратэхнічныя эфекты. Канчаючы канцэрт самадзейных калектываў, сп. В. Ласкевіч запрашала на дыскатэку на месцы і на вогнішча ва ўрочышчы Старая Белавежа. На вогнішча я ўжо не паехаў, так як і не астаўся на дыскатэцы з-за няўпэўненасці адносна анатамічных параметраў іх удзельнікаў. Бо хто ведае, ці вучоныя прафесары не намерыліся правяраць цыцатасць іх удзельніц, а мо і ўдзельнікаў. А ў мяне адны толькі рэбры.

**Аляксандр Вярбіцкі**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**


*З прамовамі выступілі (злева направа): Я. Сычэўскі, Е. Бісяк, А. Байко.*


*Сёлетняе Купалле ўзначаліў калектыў з Гарадка.*

# Гулянне ў Студзіводах

*Працяг са стар. 1*

Амаль усе яго сябры гулялі ў вышываных кашулях. Многія з іх яшчэ ліцэісты.

— Гэтае Купалле не адбылося б без дапамогі спадарства Ірэны і Паўла Лазавікоў, — сказалі звязаўцы, калі падаравалі гэтай сям'і гліняны гаршчок з подпісамі ўсіх арганізатараў Купалля.

— Іхняя дачка, — гаварылі, — нядаўна святкавала 18-тыя ўгодкі. Усе грошы, якія атрымала ад бацькоў, ахвяравала на Купалле. Мерапрыемства падтрымалі многія, сярод якіх былі такія маральныя аўтарытэты, як Надзея Артымовіч, Лёнік Тарасэвіч, Яўген Вапа. Сам уладыка Сіман паблагаславіў дзейнасць маладых энтузіястаў беларускасці.

У старажытныя часы Купалле ладзілі ў гонар Бога-Сонца. Прасілі яго новых сіл, новых імкненняў, адганялі смерць. Сёння гэтыя ідэі адносяцца перш за ўсё да беларускага руху на Беласточчыне. Невыпадкова месца мерапрыемства ўпрыгожваў крыж Ярылы.

**Ганна Кандрацюк**

# СПОНСАРЫ:

Славамір Бабрыцкі — адміністратар гарадскога базару ў Бельску-Падляшскім
Валянцін Гушча — Суполка „Węgiel"
Ірэна, Ганна і Павал Лазавікі з Бельска-Падляшскага
Бурмістр горада Бельск-Падляшскі

# „Вольная сцэна" на падмостках варшаўскага тэатра

19 чэрвеня 1995 г. у варшаўскім Тэатры на Волі выступіў калектыў мінулагодніх выпускнікоў акцёрскага аддзялення Беларускай акадэміі мастацтваў. Маладыя артысты, завербаваныя творцам рэспубліканскага тэатра-лабараторыі беларускай драматургіі „Вольная сцэна" Валерыем Мазынскім падрыхтавалі пад яго мастацкім кіраўніцтвам інсцэнізацыю паэтычнай драмы Раісы Баравіковай „Барбара Радзівіл". Прэм'ера пастаноўкі адбылася 24 чэрвеня 1994 г.

У Варшаву „Вольная сцэна" была запрошана з нагоды адкрыцця аддзела менскага Пріорбанка і была адзіным акцэнтам беларускасці ў час урачыстасцей. Акцёрам беларускай сцэны ўдалося паказаць сапраўдны ўзровень іх сцэнічнага майстэрства на сцэне варшаўскага тэатра ў нялёгкай да інсцэнізацыі паэтычнай драме. Дзякуючы ўмеласці рэжысёра, дастасаванне калектыву да абставін гасціннага чужога аб'екта нікольки не адбілася на якасці ігры акцёраў. Усе яны дасканала атаясамліваліся з ролямі, дастасоўваючы да сваіх герояў тэмперамент і спосаб успрымання ўмоў акружаючага іх тагачаснага свету. Калі што незразумелым магло паказацца тутэйшаму гледачу, то манера „чалавека ў шэрасцях", што не задбаў пра тое, каб свае манеры і жэсты прыкрыць тактычнаю пакорай, характэрнай езуіцкай іерархіі.

Выступленні маладых менскіх артыстаў публіка ўспрыняла вельмі прыхільна, калі не сказаць энтузіястычна, аб чым сведчылі працяглыя воплескі. Мілае ўражанне ў прысутных выклікаў нацыянальны характар „Вольнай сцэны", ці дакладней, яе сімпатычнага калектыву і выразнае імкненне яго стварыць сапраўдны сучасны беларускі нацыянальны тэатр, вольны ад канонаў прошлага.

**Я. Ж.**

# Летапіс Віленскай беларускай гімназіі

*(працяг: пачатак у папярэднім нумары)*

Пішучы пра стан беларускага школьніцтва ў даваеннай Польшчы, д-р Северын Выслоух, выкладчык Універсітэта Стэфана Баторыя, пра 1927/1928 школьны год занатаваў наступнае:

„Віленская гімназія Таварыства беларускай школы — школа з сумесным навучаннем, гуманістычнага тыпу, спачатку з расейскай мовай навучання, потым з беларускай, узнікла ў 1919 г. Мае восем класаў. Колькасць вучняў бывае між лікам 336 у 1923 г. і 171 у школьным годзе 1927/1928. Такая розніца тлумачыцца тым, што ў пачатку значны працэнт вучняў складалі яўрэі, а цяпер — выключна беларусы, пераважна праваслаўныя (76%).

У 1928 годзе гімназія карысталася дзяржаўнай дапамогай у форме 4 штатаў. Дапамога гэтая ў наступных гадах была спынена. У 1927/1928 годзе стан школы прадстаўляўся наступна: вучняў — 130, вучаніц — 41. У тым ліку мясцовых віленскіх навучэнцаў было 61, з Віленска-Трокскага павета — ніводнага, з далейшых ваколіц — 97 хлопцаў і 11 дзяўчат. Пры гімназіі на сродкі Беларускага таварыства дабрадзейнасці існаваў інтэрнат для 63 хлопцаў. Пры місіі метадыстаў працаваў інтэрнат для 18 дзяўчат. Паколькі гэтая моладзь у значнай сваёй большасці паходзіла з сялянства, часта вельмі беднага, з тае прычыны 40 вучняў толькі часткова аплачвалі ўступны ўзнос, а 57 вучыліся бясплатна. Настаўніцкая бібліятэка даволі вялікая і налічвала 10 000 тамоў, вучнёўская — 1 121 том. Настаўнікаў — 20. У 1926/27 г. гімназію закончылі 6 чалавек. Дэфіцыт гімназіі, які дасягае 70% бюджэту (34 000 зл.), пагасіла Таварыства беларускай школы. За ўвесь час існавання школы гімназію закончыла 183 асобы" (*Wilno i ziemia Wileńska — zarys monograficzny*, t.I, Wilno 1930).

Можа не ў аднаго чытача паўстане пытанне, чаму ў 1927/1928 г. у Віленскай беларускай гімназіі ніхто не вучыўся з Віленска-Трокскага павета? Было гэта вынікам спецыфічных умоў. У беларускую гімназію свае дзеці магло пасылаць толькі падвіленскае сялянства, а яно было вельмі беднае і іх дзеці не вучыліся ні ў беларускай, ні ў польскай гімназіі.

Па-першае, значная большасць сялян жыла на 2,5-гектарных гаспадарках, размешчаных у цераспалосіцы. Ці пры такім расчлiненні зямлі можна было весці нейкую рацыянальную гаспадарку? Перад жнівом многім не хапала хлеба, не гаворачы ўжо пра магчымасці пасылаць дзеці ў горад у школу і плаціць за ўтрыманне і навуку. У дзяржаўных сярэдніх школах за навуку трэба было плаціць 220 зл. (у прыватных яшчэ даражэй), калі за добрую карову плацілі 100 зл. А колькі ж кароў можна было выгадаваць і прадаць з 4 —5-гектарнай гаспадаркі?

Па-другое, падвіленскае беларускамоўнае каталіцкае насельніцтва знаходзілася пад уплывам польскага, шавіністычнага духавенства, варожа настаўленага да беларускасці. Віленскі каталіцкі мітрапаліт Рамуальд Ялбжыкоўскі пісьмом ад 11 снежня 1928 г. забараніў католікам належаць нават да Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і чытаць яе орган „Крыніцу".

Па-трэцяе, з гэтым усім спалучалася і цемната насельніцтва, якая была вынікам многавяковай няволі. Сярод падвіленскага беларускамоўнага насельніцтва не было ніводнай беларускай школы, а і польскія былі толькі чатырохкласныя (czteroodziałowe) і многа ведаў не давалі. У вялікай Тургельскай воласці толькі каля 1930 г. стварылі адну шасцікласную (sześcio-oddziałową) школу. Пасля 1930 г. з гэтай жа воласці толькі двое вучняў паступілі ў гімназію: адна ў Віленскую беларускую, другая — у польскую ў Ашмянах.

Да гэтага ўсяго беднае і цёмнае падвіленскае насельніцтва не разбіралася ў нацыянальных справах і спалучала іх з рэлігіяй. Былі на вёсках вядомыя сярод насельніцтва беларускія дзеячы, напрыклад Казімір Фалькевіч у Шастаках каля Тургеляў, кравец Ян Федаровіч у Бігелдах каля Табарышак, Ялінскі ў Медніках, Лукашэвіч у Кавальчуках і іншыя, але іх заглушалі чужацкія клерыкальна-чыноўніцкія кругі. Беларуская сялянска-рабочая грамада не зварухнула падвіленскае насельніцтва, а мне вядомы быў толькі адзін гурток у Рудаміні пад Вільняй. Арганізаваны беларускі нацыянальны рух праявіўся тут каля 1929 г. у форме гурткоў Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Новай Вілейцы, Медніках-Курганах, Кердзіеўцах, Юшках, Кяйпунах, Мураванай Ашмянцы. Некаторыя з іх пратрымаліся да самай вайны.

Усе існуючыя ў той час беларускія гімназіі, а было іх чатыры, не мелі статусу дзяржаўных школ. Іх выпускнікі не маглі паступаць у вышэйшыя школы ў Польшчы. У сувязі з гэтым, як піша д-р Северын Выслоух, у выніку захадаў эміграцыйнага ўрада Вацлава Ластоўскага (БНР) чэшскі ўрад у 1921 г. прызначыў 25 стыпендый для беларусаў у сваіх вышэйшых навучальных установах. У 1922 г. колькасць стыпендый павялічылася да 50, а з 1923 г. — каля 100.

Каб спыніць выезды ў Чэхаславакію, польскі ўрад вясною 1928 г. стварыў спецыяльную экзаменацыйную камісію для беларускіх гімназій у Вільні і Навагрудку, якую ўзначаліў праф. Мар'ян Масонюс з Універсітэта Стэфана Баторыя. У саставе камісіі была частка настаўнікаў Віленскай беларускай гімназіі і дзяржаўных польскіх сярэдніх школ. У Вільні да матуры прыступіла 12 вучняў, здало — 10. З кастрычніка 1928 г. міністр рэлігійных спраў і публічнай асветы Польшчы прысвоіў Віленскай беларускай гімназіі дзяржаўныя правы і шэсць настаўніцкіх штатаў.

Працэс правадыроў Беларускай сялянска-рабочай грамады, арышты і праследаванне Таварыства беларускай школы выклікалі ў Віленскай беларускай гімназіі дэманстрацыі, а ў выніку — звальненні польскімі уладамі настаўнікаў і выключэнні са школы дзесяткаў вучняў.

*(працяг будзе)*

**Віктар Ярмалковіч**

# Гісторыя праваслаўя ў Белавежы

Мураванай праваслаўнай царкве ў Белавежы сёлета споўнілася 100 гадоў. Юбілейныя святкаванні адбыліся напрыканцы мінулага года. Аб іх пісала „Ніва". Зараз рэкамендуем чытачу нарыс гісторыі праваслаўя ў Белавежы.

* * *

Пачаткі Белавежы сягаюць першых гадоў XV ст., хаця, як мясцовасць, заіснавала яна толькі ў XVII ст. Да другой паловы XVIII ст. яна была адзіным пастаянным пасяленнем унутры Белавежскай пушчы. З паляўнічага двара польскіх каралёў з часам пераўтварылася ў вёску, а бадай у некалькі вёсак, размешчаных на г.зв. Белавежскай паляне.

Першыя жыхары Белавежы — русіны — выводзіліся, згодна з меркаваннямі праф. Ежы Віснеўскага, з пасяленцаў, прыбылых на гэтую тэрыторыю галоўным чынам з брэсцка-валынскага напрамку. Папярэдне звязаны з Праваслаўнай царквой, яны пасля 1596 г. былі занесены ў лік вернікаў Уніяцкай царквы.

Згодна з мясцовым паданнем у Белавежы ўжо ў XVII ст. існавала царкоўка, якая згарэла падчас пажару вёскі ў пачатку XVIII ст., калі шалела чума. Адзіная захаваная па ёй памятка — гэта звыш трохсотгадовы звон у могільнікавай капліцы.

Спачатку белавежцы належалі да прыхадской царквы ў Шарашове. Пасля збудавання ў 1680 г. царквы ў Сухопалі і стварэння Сухопальскага прыхода, перайшлі да яе.

У першай палове XVIII ст. на Белавежскай паляне закладзена могільнік, які праіснаваў да нашых дзён.

Прыналежнасць Белавежы Сухопальскаму прыходу пацвярджаюць візітацыі ў 1748, 1757 і 1769 гадах. Прыход у той час ахопліваў амаль усю ўсходнюю частку Белавежскай пушчы. У 1757 г. да яго прыналежалі 83 асобы з Белавежы, а ў 1769 г. — 23 сем'і.

Каля 1782 г. царква ў Сухопалі згарэла. З увагі на тое, што збудаваная на яе месцы капліца не магла змясціць нават часткі прыхаджан, пачалі будаваць новы храм. Працы працягваліся 7 гадоў.

Існаванне ў той час могільніка ў Белавежы пацвярджае карта Белавежскай паляны, распрацаваная ў 1784 г. землямерам Палхоўскім. На могільніку знаходзілася тады капліца святых Кірылы і Мяфодзія, пра што ўспамінаюць першыя апісанні ад 1790 г. Капліца была драўляная і пакрытая саломай.

У 1799 г. Белавежа з 30 сем'ямі яшчэ належала Сухопальскаму прыходу, хаця ад некалькіх гадоў мела ўжо сваю царкву. Магчыма, што белавежцы былі прыпісаны Сухопальскаму прыходу яшчэ ў 1800 г., але ўжо візітацыя ад 1801 г. іх не называе.

Царква ў Белавежы была збудавана ў 1793 г. Акт ахвяравання новага храма выдаў у 1797 г. галоўны начальнік Брэсцкай эканоміі Шчапаноўскі. З дакумента даведваемся м.інш., што прыхадскому святару надзелена 3 валокі ворнай зямлі і 10 моргаў сенажацяў. Дзяк жа атрымаў паўвалокі ворнай зямлі і 2 моргі сенажацяў.

Паводле запісак праф. Ф. П. Яроцкага, які ў Белавежы знаходзіўся ў 1830 г., можам здагадвацца, што царква стаяла больш-менш на месцы цяперашняга храма. З могільнікам спалучала яе ліпавая алея, якой сляды праіснавалі да пачатку 70-х гадоў XX ст.

Дакладная дата стварэння ў Белавежы самастойнага прыхода — тады яшчэ уніяцкага — невядомая. Праўдападобна было гэта ў 1800 або на пачатку 1801 г. Новапабудаваная царква была драўляная, крытая саломай. Шмат гадоў заставалася яна недаканчанай і неаснашчанай. Іканастас атрымала толькі ў 1836 г.

У выніку скасавання ў 1839 г. у Расейскім царстве Брэсцкай уніі, якая падпарадкоўвала папству Праваслаўную царкву ў Рэчы Паспалітай, белавежская царква вярнулася ў праваслаўе.

У 1845 г. царква надалей мела беднае аснашчэнне і прыбранне, што сцвярджае ў сваіх падарожных занатоўках Канстанцін Арсенцеў. Мабыць, няшмат змянілася і ў наступных гадах. У 1870 г. храм быў ужо настолькі ў дрэнным стане, што вырашана разабраць яго.

Раней, у 1853 г., намаганнямі вернікаў была пабудавана ў Белавежы новая, драўляная царква. Яе нябесным заступнікам стаў св. Мікалай Цудатворац. Храм знаходзіўся на месцы цяперашняга прыхадскога агарода (на поўнач ад сучаснага храма).

У 1853 г. Белавежскі прыход, які дагэтуль заставаўся ў Пружанскім благачынні, быў пераведзены ў Шарашоўскае благачынне.

На пачатку 60-х гадоў у Белавежы заснавалі прыхадскую школу, якую спярша вёў настаяцель прыхода Ян Якубоўскі.

7 кастрычніка 1860 г. царкву наведаў цар Аляксандр II, у сувязі з паляваннем у Белавежскай пушчы.

У 1870 г. пры царкве было створана апякунства. На зыходзе XIX ст. яго старшынёй быў кіраўнік царскага палаца ў Белавежы генерал-маёр Павел Папоў.

У 1873 г. за сродкі сабраныя прыхаджанамі збудавалі новую могільнікавую капліцу, таксама драўляную. У тым самым годзе закупілі для яе іконы. Паставілі таксама ікону Пакрова Божай Маці XVII стагоддзя.

Пры царкве дзейнічаў тады хор вучняў мясцовай школы. Потым другі хор заснавалі ўраднікі. Абодвух хораў з прыемнасцю слухаў цар Мікалай II.

Пасля 30 гадоў новая царква перахілілася ўбок так, што трэба было падпіраць яе каламі. Такую яе пабачыў 11 снежня 1885 г. вялікі князь Міхал Мікалаевіч. Пасля вяртання ў Пецярбург распачаў ён намаганні паскорыць пабудову новага, мураванага храма.

У 1888 г. Белавежская пушча перайшла ў прыватнае ўладанне расейскіх цароў. Пахіленую царкву разабралі. Матэрыял з яе перададзены быў праваслаўнаму прыходу ў Пухлах, дзе яго выкарысталі для пабудовы могільнікавай капліцы.

Будова царквы, па праекту віленскага архітэктара Піменава, пачалася неўзабаве пасля таго, як сталі будаваць у Белавежы палац. 20 жніўня 1894 г. працуючых пры храме наведаў яго заснавальнік цар Аляксандр III.

Некалькі гадоў раней была закончана пабудова новых дамоў для настаяцеля і псаломшчыка, разам з гаспадарчымі будынкамі.

Асвячэнне новай царквы, прызнанай найпрыгажэйшай у Гродзенскай губерні, адбылося 22 студзеня 1895 г. (паводле старога стылю). Яе патронам, так як і папярэдняга храма, стаў св. Мікалай Цудатворац. Урачыстасць асвячэння ўзначаліў епіскап Літоўскі і Віленскі Іеранім.

*(заканчэнне ў наступным нумары)*

**Пётр Байко**
**Фота са збору аўтара**



*Ва ўрачыстым святкаванні 100-годдзя белавежскай царквы (13—14.10.1994 г.) прыняў удзел Яго Блажэнства Васілій, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы.*

# Давайце палічым колькі нас

Вельмі часта наш народ сустракаецца з выказваннямі сваіх правадыроў, пісьменнікаў, гісторыкаў ды публіцыстаў, што ў Польшчы жыве каля 250—300 тысяч беларусаў, больш-менш столькі ўкраінцаў і крышку іншых.

Не буду займацца тымі іншымі, бо магу памыліцца іх статыстычным лёсам і ўвесці непатрэбнае рознагалоссе паміж намі, але ніхто мне не забароніць падказаць беларусам, каб пакінулі і адышлі ад сваёй статыстыкі адносна ліку беларусаў у Польшчы, і паверылі статыстыцы польскіх улад і палітычных колаў, якія не адзін раз гаварылі па-добраму, а часам з гнеўным дакорам, што ад 1944 аж па 1989 год органы СБ, УБ, міліцыі і прынамсі КБВ (Корпус унутранай бяспекі) ды ППР—ПАРП састаўлялі беларусы і украінцы. Каб быць дакладнейшым — праваслаўныя.

Дык вось, навошта з братамі палякамі спрачацца колькі іх у Польшчы, а колькі нас? Хопіць палічыць колькасць функцыянераў у вышэйзгаданых палітычна-мілітарных арганізацыях на працягу існавання ПНР і будзе ўсё ясна. Вядома, што ў сувязі з гэтым прымем на сябе агідную пляму камунізавання Польшчы, адказнасць за забарону каталікам хадзіць у касцёл і будаваць хаця б каплічкі, але затое ўся Польшча, свет і палова Амэрыкі даведаюцца колькі ў Польшчы жыве палякаў, а колькі іншых! Калі гэта падлічым, тады можа паказацца, што ў нас падобная сітуацыя як у Мандэлеўскай Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы. А калі так, дык акажацца, што намі правіць меншасць і трэба будзе пашукаць выхаду пры дапамозе ААН, або саміх Юнайтыд Стэйтс оф Амэрыка.

Рымскі папа гаворыць, што ў Польшчы вядзецца надалей праследаванне католікаў, аб гэтым самым галосіў Юзэф Глемп у час святкавання Божага Цела ў бягучым годзе. А хто можа ў Польшчы праследаваць каталіцкіх вернікаў? Можа праваслаўная большасць? Католікі, відаць, якія ад камунізму пахаваліся за акіяны, пакуль яшчэ не вярнуліся, дык з'яўляюцца яны меншасцю ў Польшчы, дамагаюцца як меншасць абароны сваіх правоў.

**Васіль Петручук**

# 6-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

*(Матф. 9, 1-8)*

У шостую нядзелю пасля Пяцідзесятніцы чытаецца фрагмент з 9-га раздзела Евангелля паводле Матфея. У ім гаворыцца пра аздараўленне Хрыстом у Капернауме спаралізаванага чалавека, якога прынеслі на насілках чатыры сябры. „Бачачы веру іх, — чытаецца ў Евангеллі, — Ісус сказаў спаралізаванаму: даруюцца Табе грахі твае". Чытаючы ж ў думках фарысеяў, якія ўспрынялі гэта як блюзнерства, пакольки даравацъ грахі можа толькі Бог, Хрыстос прамовіў да іх: „Каб ведалі вы, што Сын Чалавечы мае ўладу дараваць грахі", — ды сказаў паралітыку: „Устань, вазьмі ложак свой ды ідзі ў дом свой".

Сведкі гэтай падзеі ўспрынялі цуд па-рознаму. Для адных ён стаўся прычынаю асуджэння, а іншым паказаў, што сапраўды прычынаю хвароб можа быць грэх. Святое Пісанне наогул вучыць, што грэх з'яўляецца прычынаю ўсякага зла. Кожнае выяўленне зла — гэта вынік асноўнага грэху, які можа мець шматлікія формы, але сутнасць яго застаецца нязменнай ад самога пачатку, калі ён увайшоў у чалавечую гісторыю. Той самы грэх схіляе дзікуна з кап'ём у руцэ забіваць іншаплямёнцаў і гэтак жа пілота навейшага самалёта бамбардзіраваць безабаронныя вёскі. Ахінаючы сваёй абалонкай душу, грэх не дазваляе пранікнуць у яе Божай ласцы і чалавек робіцца чэрствым, хмурным і непадатлівым на дабро. Грэх быў прычынаю першага братазабойства і першай магілы. Сёння вынікі грэху назіраем у павялічаных маштабах у незлічоных турмах, шпіталях і магільніках.

Нехта можа запярэчыць і сказаць: а чаму хварэюць і пакутуюць малыя, нявінныя дзецi? Чаму яны гінуць у выніку вайны, у лагерах для ўцекачоў, як напрыклад у Руандзе, у сітуацыях, якіх яны не стварылі і не мелі на іх уплыву? Адказ на гэта просты. Нехта ж выклікаў вайну, нехта стварыў лагеры смерці, чыясьці нядбайнасць давяла да аварыі ў Чарнобылі, нехта адказны за недахоп лякарстваў і харчоў, за атручаную ваду і паветра. Мы ўсе жывем у сістэме спалучаных сасудаў, дзе адно з другім звязана. Нашы беды таксама невыпадковы: іх прычынай сталі або мы самі, або нехта іншы. Гэта можа быць чыясьці блізарукасць, нядбайнасць або эгаізм, не гаворачы пра наўмысныя злачынства. Усё гэта, з усемагчымымі адценнямі і нюансамі, Біблія называе адным словам — грэх.

Прыблізна два гады таму епіскапат польскага Каталіцкага касцёла вуснамі свайго першаіерарха кардынала Глемпа заявіў, што хворыя на СНІД самі сабе вінаватыя, бо гэта плён разбэшчанасці, ненатуральных палавых зносінаў, наркаманіі і гэтаму падобных грахоў. Кардынала абвінавацілі ў сярэдневяковым цемрашальстве, даказвалі, што значны працэнт захворванняў з'яўляецца вынікам пераліванняў крыві, але ўсё роўна ніхто не здолеў запярэчыць факту, што СНІД найбольш пашыраны сярод гомасексуалістаў і наркаманаў. Непасрэдная ўзаемазалежнасць паміж грахом і хваробай, на першы погляд можа не быць прыкметнай, аднак гэта факт. Без мікраскопа і статыстык бачна, колькі хвароб і наогул зла выклікаюць п'янства, абжорства ці распуста. Пачынаючы ад праступы дзіцяці, як выніку ягонай непаслухмянасці, і канчаючы забойствам, прычына сваёй або чужой біды тая самая і яе можна было б пазбегнуць, калі б памятаць прымаўку: „Хто дрэнна жыве, таму і будзе дрэнна". У Святым Пісанні сказана падобна: „Што пасееш, тое і будзеш жаць".

Усе пакуты, боль, гвалты, трагедыі і сорам чалавецтва заключаюцца ў адным старамодным слове „грэх". Сучасныя людзі могуць замяняць гэтае архаічнае слова паняццем слабасці, памылкі або прыроднай заганнасці чалавека, але Бог словамі Святога Пісання лічыць яго трагедыяй. Мы можам прайсці міма яго і паспрабаваць забыцца, як пра кашмарны сон або непрыемную заўвагу, але Бог лічыць яго агідным. Чалавек імкнецца паправіць сваю біяграфію і апраўдаць свае паступкі, але Бог паказвае яму сапраўдную небяспеку грэху і вучыць пазбягаць яго.

Чалавека, які звычайна не мае ні часу, ні ахвоты задумоўвацца над сваімі дзеяннямі, Царква падахвочвае да самааналізу ў супастаўленні з евангельскімі сюжэтамі. Насуперак чалавечаму мудрагельству і адвечнаму пошуку прычыны зла па-за сабою, Царква паўтарае: „Даруюцца табе грахі твае; ідзі і больш не грашы".

**а. Канстанцін Бандарук**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Я тваю рубрыку чытаю ўважліва амаль ад самага пачатку. Нават крыху падвучылася разгадваць сны.

Цяпер мне прысніўся сон, якога я ніяк не змагла разгадаць. Быццам нечакана прыехалі да нас госці аж з-за акіяна. Прыехалі знаёмыя — муж з жонкай, але ён у сне не такі стары, як у жыцці, а малады, статны і прыгожы брунет (у жыцці ўжо сівы).

Я ў жаху: прыехалі неспадзявана, ды яшчэ з чацвярыма ўнукамі, а ў нас у гасцях ужо аж дзве сям'і, адна — з Польшчы, а другая — з Беларусі. Куды ж я іх усіх памяшчу?! Нават палажыць спаць няма дзе.

Ну, і здуру сказала ім, як выглядае справа. А яшчэ дадала, што, хаця я іх і запрашала, дык лічыла, што яны раней паведамяць нам пра свой намер прыехаць у Польшчу, у госці да нас.

Ну, сказала я так, а яны ўзялі і абразіліся. Адвярнуліся ад мяне і ўжо збіраюцца выязджаць назад. Я — нейкая абыякавая, гляджу ім услед. І раптам муж жанчыны вяртаецца і кідае мне проста над ногі грошы, якія яны нібыта мне мелі даць за тое, што будуць у нас. А грошай тых было, здаецца, усяго пяцьдзесят долараў.

Я падумала ўсё ж, што трэба спадзявацца пасля такога сну нейкай непрыемнай справы. І так толькі прыглядалася цэлы дзень, ці не зробіць мне хтосьці прыкрасці. А тут на табе: на другі дзень тэлефон; знаёмыя прысылаюць да нас на адпачынак сваю дваццаціградовую дачку. Маем яе сустрэць і апекавацца ёю. Прыехала яна і дала мне пяцьдзесятку долараў, бацькі далі на хлеб і соль, сказала. А мы і самі ўжо кудысьці хацелі паехаць адпачыць.

**Вера**

Вера! Вось і вылезла тая непрыемная справа, якую прадвяшчаў твой сон. Пэўна, у іншы момант было б табе прыемна прыняць тую дзяўчыну, а не тады, калі мела ехаць у адпачынак сама.

Сны не заўсёды варта інтэрпрэтаваць наадварот. Часамі ўсё высніцца, як у жыцці.

**АСТРОН**

## Гмінныя навіны
## У Сідры і ў ваколіцы

### Як крышталь

Зараз з 1 200 сельскіх гаспадарак у гміне Сідра ваду з крана маюць 305 двароў. Найперш такую выгаду мелі жыхары Сідры — з 1971 года. Дзесяць гадоў пазней водапровод пабудавалі ў Яцаўлянах, Рацэве і ў Паганіцы. Толькі год таму назад вада чыстая як крышталь паплыла ў Макаўлянах, Ялоўцы, Маеве, Хвашчэве, Голіках і ў Раманоўцы. Цяпер мае яе 11% усіх тамашніх вёсак. Водапровод мае даўжыню 27,8 км.

У недалёкай будучыні водапроводы пабудуюць у Навінцы, Сламянцы, Сякерцы і Бярвісе (вада паплыве з глыбіннай студні ў Макаўлянах) ды ў Шастаках, Сідэрцы, Юрашах, Снічанах, Звяранах, Агародніках і ў Беняшах (з Сідры).

### Больш лепшых дарог

У Сідранскай гміне найбольш ваяводскіх дарог — 64,6 км, затым гмінных — 58,7 км ды краёвых — 12,3 км. Усіх разам ажно 135,6 км. Найлепшыя дарогі краёвыя. Даволі добрыя дарогі ваяводскія, а ўжо ж перш за ўсё дарога з Янава ў Макаўляны цераз Ялоўку. На ёй асфальт.

У 1993 годзе адрамантавалі драўляны 25-метровы мост на рацэ Сідра ў вёсцы Сідэрка. У апошнія гады выраўнялі два чатырохкіламетровыя адрэзкі гравеек з Падсуткаў у Сідэрку ды з Агароднікаў у Залессе. Асфальт паклалі на двух вуліцах у Сідры: на Касцельнай і Сламянскай.

Новую пачакальню пабудавалі на аўтобусным прыпынку ў Сякерцы ды адрамантавалі ў Макаўлянах і ў Рацэве.

### Ало! па тэлефону

У Сідранскай гміне яе жыхары карыстаюцца 176 тэлефонамі. У самай Сідры ад 2 гадоў маюць аўтаматычную тэлефонную станцыю. Найбольш тэлефонаў у жыхароў Сідры ды ў салэцтвах Маева, Хвашчэва і Залессе. Адзін тэлефон выпадае на 26 жыхароў.

Ёсць таксама 20 бесправодных тэлефонаў, якія спалучае спецыяльная радыёстанцыя. Зараз тэлефон маюць усе салэцкія вёскі.

**Янка Целушэцкі**

## І ТАК МОЖА БЫЦЬ...

Лена засталася адзінай дачкой у бацькоў. Брат пайшоў у прымы ў іншую вёску. Дзве сястрычкі памерлі малымі на туберкулёз.

Лена не захварэла. Кончыла прафесіянальную школу, пасялілася ў горадзе. Наймала пакойчык, збірала грошы на ашчадную кніжку — хацела сабраць на свой „блёк" у горадзе. З нікім не сустракалася, а бацькі ўсё дапытваліся, калі ўжо пойдзе замуж. Адказвала заўсёды: „Яшчэ на гэта прыйдзе мой час. Бачыце, мае сяброўкі не ўсе задаволены з замуства. Хачу яшчэ крыху пажыць адна."

Было ёй ужо трыццаць пяць гадоў, калі прыехала з хлопцам і заявіла, што будуць пабірацца шлюбам.

Вяселле думалі згуляць восенню. Яшчэ быў пачатак лета, але сур'ёзна планавалі, каго прасіць, колькі грошай пойдзе на вяселле. У студзені Лена мела атрымаць сваю кватэру.

Месяц да вяселля прыехала маці наведаць дачку і зрабіць пакупкі. Раніцай зайшла да Лены, распыталася, як справы і пайшла па крамах.

Матчын ручны гадзіннік пазніўся на паўгадзіны. Верка не паспела на аўтобус. Вярнулася на начлег да дачкі.

Павячэралі. Лена пачала даставаць мяса з маразілкі — збіралася размарозіць халадзільнік. Раптам упала. Маці кінулася ратаваць, нарабіла крыку. Прыбеглі гаспадары. Не змаглі дачуцца і пазванілі па „хуткую". Лену паклалі ў бальніцу — у яе быў інсульт.

Лена два месяцы не адплюшчыла вачэй. Калі іх адчыніла, выглядалі як дзве каляровыя кулькі ў мёртвых вачніцах. Не было з ёю ніякага кантакту. Праляжала так месяц з расплюшчанымі вачыма, высахла і памерла.

— Можа, яе душа адчувала, што памрэ так молада, і таму не спяшалася выходзіць замуж? — плакала маці над дачкою.

Хавалі Лену ў марозны дзень. Калі праводзілі яе з царквы на могілкі, сыпануў снегапад.

— Пэўна свету шкадуе, — зашапталі людзі.

**Аўрора**

## ДОБРАЯ КНІГА

Кожнаму чытачу „Нівы" раджу яе купіць, а называецца яна „Панарама гмін усходняй Беласточчыны" і выйшла з-пад пяра Янкі Целушэцкага. Я ў свой час патрабаваў нават, каб менавіта панарамы нашых гмін, што друкаваліся на старонках „Нівы", выдаць асобнай кніжкай. І вось мары мае здзейсніліся, бо першая частка кнігі ўжо на паліцах кніжных магазінаў. „Панарама" напісана добра і старанна і гэта асабліва цэнны гістарычны феномен, бо апісання нашых людзей і гмін у кніжным відзе яшчэ не было. Варта падзякаваць аўтару за яго здольнасці, цярплівасць і працу, бо для такога дэталёвага апісання гмін, то трэба мець галаву на плячах, як гэта гаворыцца ў народзе. Аўтар мусіў пагартаць тысячы розных дакументаў, паслухаць вусныя расказы, каб нешта канкрэтнае з гэтага выйшла. І выйшла — добрая кніжка! Чакаю другую частку.

Возьмем для прыкладу панараму нашай Дубіцкай гміны. Напісана яна жыва, праўдзіва, з багатым зместам. Дае жывое і добрае адлюстраванне нашага тут жыцця. Праўда, знайшоў я і некалькі хібаў: аўтар шырока і дэталёва апісвае некаторыя гмінныя ўстановы, напрыклад, гмінны асяродак культуры ці бібліятэку, але іншыя ўстановы, як пошту, банк, асяродак здароўя ці царкву — абыходзіць маўчаннем. А вядома з практыкі, што яны не менш важныя ад самой Гміннай управы, а напэўна важнейшыя ад асяродка культуры ці бібліятэкі, без якіх селянін у наш час можа жыць і то лёгка. Аўтар успамінае пра кніжкі нашых аўтараў, членаў Літаратурнага аб'яднання „Белавежа", якія можна пазычыць у мясцовай бібліятэцы. Добра што ён пра іх успомніў але, на жаль, ніхто гэтых кніжак у рукі не бярэ. На той жа старонцы ёсць сказ „Важную ролю ў чытальніцтве беларускіх кніг адыгрывае „Ніва", якая заўсёды мае тут сваіх верных чытачоў". Перад напісаннем гэтага сказа трэба было скантактавацца з поштай або са мною. Сама бібліятэка, напрыклад, ад многіх гадоў „Нівы" не выпісвае. Кожная кіраўнічка бібліятэкі, так як і амаль усе працаўнікі гміны, варожа ставяцца да роднай „Нівы"; маю толькі двух верных чытачоў сярод працаўнікоў гміннай адміністрацыі. Але ніхто з дарослых наведвальнікаў бібліятэкі „Нівы" не чытае. „Ніву" чытаюць іншыя але яны, бадай, у бібліятэку і не заходзяць.

**Мікалай Панфілюк**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на руханак: **PKO BP, Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 441. Аляксей Харкевіч (Гайнаўка) — 10 зл.
4 442. Вольга Рыгаровіч (Гайнаўка) — 20 зл.
4 443. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) — 20 зл.
4 444. Ахвяраванні ўдзельнікаў Свята беларускай культуры ў Беластоку 18 чэрвеня г.г. — 396,03 зл.
4 445. Ахвяраванні сабраныя ў скарбонку Беларускага музея, на „Крыначчы" 12 чэрвеня г.г. і на Свяце беларускай культуры ў Беластоку — 464,09 зл.
4 446. Пётр Павелкевіч (Варшава) — 10 зл.
4 447. Аляксандр Кучко (Новае Ляўкова) — 5 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

## ПАРНАС

ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАХ

### Дождж

Вялікая сіла натуры
Дождж, а часта буры.
Падчас маланак і громаў
Найлепш прабываць бліжэй дому.
Дождж, наш ратунак —
Божы для нас падарунак.
Ад яго наша існаванне
І на зямлі прабыванне.
Дождж — студня жывая
Усё палівае,
Поіць спрадвеку
Жывёлу і чалавека.
Падае на рэчкі, акіяны,
На лясы і паляны,
На лугі, сенажаці, палі,
Каб усе арганізмы жылі.
Люблю дождж і гром,
Што гучыць як нябесны звон,
Маланку, што ў прасторах
І вясёлку у колерах.

**Мікалай Панфілюк**


# Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцыляры), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 7,00 zł (70 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 15,40 złotych (150 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Захварэў

Не стары ён — кожны знае,
Добрае здароўе мае,
А злажыліся прычыны,
Захварэў са свае віны.

Стогне, крэкча, памірае,
На здароўе наракае,
Стала цяжка павярнуцца,
Нат не можа апрануцца.

Замест доктара парады
Ды сямейнае спагады,
Сам сабе шукае лекі,
Памінаючы аптэкі.

Расхварэўся небарака,
А на выгляд — здаравяка,
Мускулісты, голас звонкі,
З'есці можа больш ад жонкі.

Тут хвароба не цялесна
І не ёсць яна балесна,
А хварэе ён мадэрна,
Школьным дзецям характэрна.

Не такія ўсе мужчыны,
Больш хварэюць мо жанчыны,
Толькі што фасон трымаюць,
Ды хваробу засланяюць.

Ю. В-скі







Мал. Я. Бусла

## Смех у санаторыі
### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

— Здароў Грыша. Ад чаго маеш такі сіняк пад вокам?
— Ад думання.
— ?!
— Учора запрасіў дадому сяброўку, бо думаў, што жонка вернецца з санаторыя сёння вечарам.

* * *

Прыходзіць дашкольнік да лекара:
— Пан доктар, ці пяцігадовая дзяўчына можа стаць цяжарнай?
— Не, не можа.
— І я так думаў. Яна мяне па-просту шантажыруе.

* * *

Прыходзіць Каміль да лекара:
— Не куру, не займаюся сексам, цікава, чаго вы мне яшчэ забароніце.

* * *

Да лекара прыходзіць мужчына:
— Пан доктар, я хіба не магу мець дзяцей.
— Зараз праверым. Прашу ўзяць слой, пайсці за параван і аддаць у гэты слой насенне.
Пайшоў пацыент за заслону і па хвіліне раздаліся адтуль стогны і охі. Цягнулася гэта з 15 мінут. Лекар страціў цярплівасць:
— Ужо хопіць; не прыйшлі ж вы сюды дзеля прыемнасці!
З-за заслонкі выйшаў спацелы мужчына:
— Прашу прабачэння. Прабаваў я і правай рукою, і левай, і цераз шматку. Нічога не атрымалася: не магу адкруціць гэты слой.



Мал. А. Папова

*СЦЯПАН АБУХ*

## Клеркава сведчанне

Так, я пісьменны (але ці можа гэта быць закід?), хоць і не кланяюся столяравай жонцы з нашай камяніцы. А яна, вось, засведчыла ў судзе, што баіцца са мною ехаць адна ў ліфце. Быццам паглядаю на яе неяк страшна. Мая жонка абвінавацiла мяне, што хачу я пазбавіць яе кватэры ды падала ў суд на развод. Яе і сына, нібыта, цягаў я на ланцугу па пакоях — дзеля псіхічнага і фізічнага, паводле агіднага ейнага выразу, здзеку над імі. Гэтую ейную істэрыку, — кажу вам, — я запісаў на відэакамеру. Ха-ха-ха, узяў аднойчы і запісаў усенькі ейны крык — цяпер у мяне ёсць доказ. А на развод, так і не пагадзіўся.

Ведаеце што — суд не накіраваў маю жонку на псіхіятрычнае абследаванне ў клініку. Засудзілі мяне там *памясціць*! За паводзіны ў судовай зале і за змест пісьмаў, якія накіраваў я ў суд у сувязі са справай. Вось так, не ўдакладніўшы якія менавіта мае паводзіны маюцца на ўвазе. Хіба я там на галаве стаяў? А мне ўжо думалася, што англа-саксонская дэмакратыя і наш стыль жыцця — гэта ўсё на свеце. Звярніце яшчэ ўвагу на мярзотнасць судовай фармулёўкі: *памясціць у клініку дзеля дэталёвага абследавання*. Рыхтык валізку якую *памясціць* у шафу, а не чалавека.

Мая жонка нагаварыла ў судзе, што я не забіраю яе на банкеты з сабою і хачу такім чынам прыкончыць, бо карыстаюся, на дадатак, кухонным нажом, калі пахіляюся над тазам. Што мне было рабіць, — дадаў я ад сябе (губы ў суддзі былі тонкія як лісток паперы і такія ж бяскроўныя), што ў хаце ёсць яшчэ сякера, якой рубаю мяса з базару, але ж не рубаю я жывых вепрукоў, а жывога чалавека — ніколі. (Трэба даглядаць, каб вастрыё было заўжды ядкое, бо інакш толькі наробіш у мясе косткавых шчэпак). Сказаў я ім яшчэ, што на кухні стаяць і іншыя прылады, між іншым, таўкач для бакалейных прыправ, а ў маёй кішэні — запальнічка.

Столярава жонка пераважна так усё ўладзіць, каб упаасобку ехаць са мною ліфтам. Закруціць тады сваім поўненькім ды кругленькім задам, а ведае добра, што ў ліфце цесна. Мусова, абатрэцца аб мяне, а ведае ж, халерніца, што ўсютка гэтае наводзіць на мяне дрыготку. Так, паглядаю на яе і, аднаго разу, я не стрымаўся.

— Ух і невыносная сёння жара, містэр Клерк. Пагнацца б куды над рэчку, — зачапіла мяне пры ўваходзе сваёй дупкай ды акцэнтам з прадмесця.

Стала, нібыта так сабе, вахляваць ногі краём сукенкі.

— Што жара, то жара, місіз Сісі! — кажу ёй.

Цікава, ці і ў такое духотнае надвор'е лупцуе яна сваіх непаслухмяных дзяцей кабелем ад праса. Цыцкі, пэўна, ано гайдаюцца ёй ад гэтай намогі ды агульнага маху. А што мне, схапіў я тады за тую кругленькую дупку і давай абдымаць — каму пад сілу такія сцэны амаль кожны другі дзень. Ой, што з гэтага натварылася — *што вы чвэрыце, містэр Клерк* ды *яшчэ хто нас убачыць*. З таго часу ліфтам стаў ездзіць сам.

Каб вы бачылі, як мая жонка паводзіць сябе на банкетах, таксама яе туды не забіралі б. Стаіць бы тая раскірэка, вочы вырачыць чорт ведама куды, не пазнае знаёмых і п'е дрынкі без лёду — гэта такое неэлегантнае, неамерыканскае. Глядзець на гэта невыносна. Гэта, проста, супроць канстытуцыі.

Я спрабаваў спакойна намецiць для суда свае сямейныя адносіны, спаслаўся таксама на аўтарытэт сваіх калег з вучэльні, якім справы гэтыя вядомыя з практыкі, а не з жончыных плётак. Хіба ж я атрымаў дэталёвую інструкцыю з суда адносна жанру, у якім трэба складаць чыноўніцкія пісьмы? Маю пісьменнасць паставілі мне ў закід. Я не супраць гутаркі з псіхіятрам. Хай запытае пра радыус Зямлі, дык адкажу яму, што 7009010 ярдаў і чуць не 3 футы паўз большую паўвось. Але я хацеў бы сам пайсці да гэтага чалавека, а калі зачыняць мяне ў клініцы, дык, пэўна, адбяруць запальнічку.

## СЕНТЭНЦЫІ

Хлусня заўсёды знойдзе шчыліну
між праўдай і сумленнем.
* * *
Кат законны, гэта ахвяра
шукае дзірку ў цэлым.
* * *
Завіруха —
усмешка зімы ад вуха да вуха.
* * *
Як прытуліць ружу без болю?
* * *
Навошта птушкам крылы,
калі я сплю?

**Барыс Руско**




Дарагое Сэрцайка! Мой брат ажаніўся з вельмі прыгожай дзяўчынай. Жылі яшчэ нашы бацька і маці, дык вяселле, пры дапамозе бацькоў дзяўчыны, зрабілі на славу. Доўга гаварылі пра яго сваякі і знаёмыя, якім давялося быць вясельнымі гасцямі, але таксама і тыя, якія пра вяселле толькі чулі.

Відаць, наканавана было гэтай сям'і, каб пра іх усё гаварылі. Як толькі брація абрадзілася (быў у іх сынок), пачала гуляць. Хлопцы ляцелі на яе, як мухі на мёд, хаця ведалі, што яна ўжо — маці. Калі сынку іхняму было паўтара годзіка, сказала мужу, што паедзе ў Амерыку на заробкі. Усё ўжо аформіла, кажа, ёсць і запрашэнне, і віза, — толькі ехаць.

Гэтая вестка ўдарыла ў майго брата, як гром з яснага неба. Не спадзяваўся такога. Ведаў, што гуляе, але ніколі не прыйшло яму ў галаву, што зможа кінуць, хай сабе і ненадоўга, іх малога сыночка, без маці. І яшчэ не ведаў таго, што запрасіў яе ў тую Амерыку адзін з ранейшых каханкаў, які абсталяваўся ўжо там.

Год, і два мінулі даволі хутка. А пасля напісала майму брату ліст, што іх шлюб быў памылкай. Што кахала і кахае па-сапраўднаму толькі аднаго — менавіта таго хлопца з Амерыкі. Калі ён выехаў туды, думала, што не перажыве гэтага. Не верыла, што яшчэ сустрэнуцца калі-небудзь. Замуж за майго брата, хаця падабаўся ён ёй значна менш, выршыла выйсці, каб заглушыць свой жаль і сум па тым хлопцу.

Мне было так шкада свайго брата, як нікога ніколі я не шкадавала. Ён жа, наіўны, кахаў яе ўсім сэрцам, не прадчуваючы яе каварства. Застаўся з дзіцяткам на руках, з усімі клопатамі і праблемамі, якія не заўсёды мог вырашыць мужчына.

Брат жыў адзін, ужо не лічачы на тое, што жонка вернецца. Не аддаў бацькам на выхаванне свайго хлапчука. Міналі гады, а маці нават не цікавілася ім. Быццам бы і ён быў ледзь прадуктам яе ілюзій. Не пісала, не прыслала ніколі ні долара, не павіншавала нават з днём нараджэння. Хлапчук пры жывучай маці рос паўсіратою.

Калі сын пачаў хадзіць у школу, брат ажаніўся з другою. Развод з першай жонкай ужо быў праведзены, ён чуў, што ў яе ўжо былі там і дзеці. Другая жонка майго брата замяніла сіраціне маці. Вельмі кахала яна майго брата, а таксама і яго сыночка — клапацілася пра яго, як родная маці, і, хаця нарадзіла ўжо двое сваіх дзяцей, на рэдкасць, не было ніякай розніцы ў яе адносінах да дзетак. Мужаў сын нават быў у нейкай ступені найважнейшы, бо быў першы, найстарэйшы.

Але здарылася няшчасце. Неспадзявана ў майго брата лекары знайшлі гуз, які аказаўся невылечным. Памёр у 35 гадоў, пакінуўшы сына мачысе. А мачыха, як і калісьці брат, не запрапанавала ні мне, ні бацькам, якія тады яшчэ жылі, каб хтосьці ўзяў да сябе хлопца. Выхоўвала яго сама, як і сваіх дзяцей. Праўда, яе матэрыяльнае становішча значна пагоршылася і яна ледзь зводзіла канцы з канцамі. Усе мы стараліся ёй дапамагчы, хаця і самім было нялёгка. Не памятала пра сына толькі яго родная маці. Але ніводнага разу мачыха не напісала ёй і не папрасіла ў яе дапамогі. А людзі ёй падказвалі, каб зрабіла гэта. Не, гэта мой сын і я сама выхаваю яго, паўтарала. Людзі дзівіліся, а нас дык яе ўпартасць нават злавала. Мучыцца баба адна з траіма дзецьмі, ды і мы робім, што можам, а яна тут са сваім гонарам... А ўсё ж не папрасіла.

І вось цяпер, Сэрцайка, мой пляменнік збіраецца жаніцца. Ізноў дапамагаем мы ўсе, а найбольш завіхаецца каля гэтага яго мачыха. Хоча выправіць яго з дому па-людску. Каб не было горш, чым у тых, што маюць бацьку-маці. Але што ж, калі сродкі ў яе надта скупыя, а без граша не кранешся!

І я падумала, што мо варта мне напісаць маці хлопца, каб дапамагла зрабіць вяселле, бо ж яе сыночак жэніцца. Парай, мо тады яе сэрца зашчыміць і яна адгукнецца?! Ці мо лепш не кранаць яе — няхай ўсё застанецца так, як было...

**Ганна**

Ганна! Лепш не кранаць. Дзякуй Богу, што маці-вырадкі здараюцца не часта. А ўсё ж здараюцца. Няхай лепш яго маці застанецца тая кабета, што выхавала яго. Не трэба вярэдзіць душу гэтага маладога чалавека: ён ужо сваё адплакаў. Разам з бацькамі дзяўчыны неяк зробіце вяселле. Няхай будзе скромнае, але ад шчырага сэрца. Такая маці не заслугоўвае нават таго, каб яе называлі гэтым вялікім словам.

**СЭРЦАЙКА**